Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 кастрычніка 2003 года

№ 40 (441)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Плюс Тэлетыдзень




## Навіны рэгіёну

### Будзьце здаровыя

ВАЛОЖЫН. Пасля доўгага перапынку зноў пачаў працаваць фельчарска-акушэрскі пункт у вёсцы Узбалаць. З 1 жніўня да работы ў ім прыступіла выпускніца Маладзечанскага медыцынскага вучылішча Вольга Сельская. Адначасова распачаліся рамонтныя работы. На добраўпарадкаванні будынка працуюць брыгады будаўнікоў РТМА і сельвыканкама.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Не раз'ехаліся

ВІЛЕЙКА. На аўтадарозе Барысаў-Ашмяны сутыкнуліся дзве аўтамашыны. Трагедыя адбылася ў суботу ўвечары. Вадзіцель ФВ-Гольфа пайшоў на абгон і сутыкнуўся з сустрэчным ВАЗам. Вадзіцель ВАЗа загінуў на месцы здарэння, а вадзіцель "Фольксвагена" цяпер знаходзіцца ў бальніцы. Узбуджана крымінальная справа.

Ірына РАБУШКА.

### Для паляўнічых

АСТРАВЕЦ. У мясцовым лясгасе плануюць зарабляць на паляўнічым турызме. Для гэтага Дравяніцкую пачатковую школу, якую перадалі лясгасу, рамантуюць. Будынак знаходзіцца ў маляўнічым месцы, ёсць сажалка, а таму, мажліва, на гэтыя краявіды "клюнуць" замежныя аматары палявання.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Працуе выстава

АШМЯНЫ. Персанальная выстава маладзечанскай мастачкі Ядвігі Сянько адкрылася гэтымі днямі ў краязнаўчым музеі. У экспазіцыі 37 ікон і карцін на біблейскія тэмы, якія будуць выстаўляцца месяц.

Марына СЛІЖ.

### Адсвяткавалі

СМАРГОНЬ. Дзень маладога спецыяліста, прымеркаваны да Дня настаўніка, прайшоў два дні таму ў горадзе. Правадзіўся ён у гонар 42-х маладых педагогаў, што прыйшлі ў школы горада і раёна. Дарэчы, 32 з іх вярнуліся пасля вучобы на родную зямлю.

Ірына РАБУШКА.

### Раіліся навукоўцы

МЯДЗЕЛ. Пяць дзён на Нарачы праходзіла 11 міжнародная канферэнцыя, прысвечаная азёрным экасістэмам. Удзельнічалі ў ёй 130 навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі, Польшчы, Германіі, Ізраіля. Прайшла прэзентацыя новага будынка станцыі – навукоўцам ён спадабаўся, бо падобных і за мяжой няшмат.

Аддзел інфармацыі "РГ".

# Гісторыя — справа душы

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню ў гісторыі Маладзечна ў школах пачалі выкладаць прадмет "Маладзечназнаўства". У гімназіі №6 яго вядзе навуковец Лілія Нагайцава.**

Гэта, як ніхто, ведае загадчыца аддзела навукова-даследчай экспазіцыйнай работы Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Лілія Нагайцава.** Гісторыі яна прысвяціла ўсё сваё жыццё. Дзіцячае захапленне перарасло ў настаўніцкую справу. Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута працавала ў сталічнай школе. Калі пераехала ў Маладзечна, звязала свой лёс з краязнаўчым музеем. Гэта сувязь доўжыцца ўжо 17 год. Неразлучалася Лілія Мікалаеўна і з настаўніцтвам. Прачытае кнігу-другую, з'ездзіць куды-небудзь, адразу да дзяцей ідзе. Падзеліцца ведамі і неяк лягчэй стане, бо адчувае патрэбу ў сабе. Падчас такіх сустрэч заўсёды ўзнікае шмат пытанняў. Але ёсць адно, якое не дае ёй спакою.

—Як можна вывучаць гісторыю (у шырокім яе разуменні), калі не ведаеш гісторыю сваёй малой радзімы? – пытаецца яна сама ў сябе.

Так у гімназіі №6 з'явіліся факультатыўныя заняткі па курсу "Маладзечназнаўства". Лілія Мікалаеўна разам са сваімі калегамі з музея прыносіць дзецям гістарычныя пацверджанні, што сведчаць пра жыццё на Маладзечаншчыне яшчэ ў другім тысячагоддзі да нашай эры. У музеі захаваліся рэшткі каменнай сякеры, керамікі. Дзецям заўсёды хочацца памацаць рукамі. Вельмі здзіўляюцца: "Колькі год прайшло!..".

У праграме "Маладзечназнаўства" не толькі старажытныя часы, але і сучасная Маладзечаншчына. Лілія Мікалаеўна расказвае дзецям, што мы багатыя на мастакоў, народных майстроў, настаўніцкія дынастыі, прамысловасць, архітэктуру. Захапляючая тэма "Радавод", дзе шмат цікавага пра продкаў і нашчадкаў маладзечанцаў. Дарэчы, старэйшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея Наталля Сухіна – нашчадак першага камандуючага Паўночнага флоту віцэ-адмірала Аляксандра Закупнева. У сераду юныя аматары гісторыі атрымалі заданне даведацца ад бацькоў пра сваіх продкаў.

— Напэўна, усе вашы выхаванцы – будучыя гісторыкі?

— Не, яны хочуць абраць розныя прафесіі. А гісторыя – справа для душы. Таму і дысцыпліна ў мяне на занятках адменная.

— Чамусьці склалася такое ўражанне, што мы, маладзечанцы, нічога не ведаем пра свой горад.

— Ну, нешта ведаем. Апошнім часам да гісторыі Маладзечаншчыны ўзрос інтарэс. У музей прыходзяць не толькі настаўнікі і студэнты, але і тыя, хто па асабістым жаданні ўдзельнічае ў розных конкурсах.

Ірына РАБУШКА.



Загадчыца аддзела навукова-даследчай экспазіцыйнай работы Мінскага абласнога краязнаўчага музея Лілія Нагайцава, аўтар курса «Маладзечназнаўства» ў Маладзечанскай гімназіі №6. Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Праграма свята

11 кастрычніка горад Смаргонь адзначыць сваё 500- годдзе. У гэты дзень на вуліцах па-святочнаму прыбранага горада, а таксама на Цэнтральнай плошчы пройдуць шматлікія мерапрыемствы.

2-я старонка

### «Памый мяне!»

Сёння ў горадзе 4 мыйкі машын. Адна з іх, якую і наведаў наш карэспандэнт, аўтаматычная.



7-я старонка

### Пад стук вагонных колаў

Сёлетні год – юбілейны для аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў чыгуначнага вузла – лакаматыўнага дэпо.



8-я старонка

■ КУЛЬТУРА

# Выстава настрой падымае

**МАЛАДЗЕЧНА. Такую назву мае выстава маладых мастакоў, якая адкрылася ў цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча.**

Назва яе ў поўным сэнсе адпавядае зместу, таму што кожны вобраз узнік не выпадкова, а прайшоў праз душу мастакоў. Кожны твор – гэта свет адчуванняў, асабісты погляд на навакольнае асяроддзе, прадметы, людзей. Адметна, што ў асноўным на выставе прадстаўлены работы мастакоў-жанчын. Не раз прыходзілася чуць: «Выстава падымае настрой. Не толькі змястоўная, але і прыгожая».

Знаёмішся з работамі Ларысы Шуліцкай і ў памяці усплываюць радкі: « Вобразы мілыя роднага краю...», бо гэта і цікавыя куточкі прыроды, і помнікі архітэктуры, і нацюрморты, якія ажылі праз пастэль, гуаш, тэмперу, акварэль. «Ручай», «Заслаўе», «Дзьмухаўцы»... Зноў і зноў хочацца падысці і пастаяць каля карцін.

Нібы ажылі прадметы ў творах Людмілы Летуновай праз алейныя фарбы, і думка мастачкі, што яна працуе ў стылі «казачнага, пачуццёвага рэалізму», у поўнай меры адпавядае яе творам. А вось назвы некаторых з іх: «Сон», «Анёл са свечкай», «Навагодняя ноч».

«У чэхаўскім стылі». Так сказалі наведвальнікі пра каляровую графіку Кацярыны Дубягі. Не толькі цікавае выкананне, але і тонкі пачуццёвы змест яе «Начной госці», юмарыстычна-пяшчотнае «Спатканне».

Марына Грамянок стварае габелены (вытканыя карціны). Рознакаляровыя нітачкі праходзяць праз яе рукі і атрымоўваюцца цудоўныя шпалеры, колер і назвы якіх («Сустрэча», «Загадкавы нацюрморт», «Вясенні пейзаж») дапаўняюць адзін аднаго, дапамагаюць раскрыць сэнс і ўявіць вобраз. Фантазіям тут няма канца. На пытанне: «Чаму менавіта габеленам больш увагі ў тваёй творчасці?» Марына адказвае: «Я адчуваю цеплыню нітачак і праз іх выказваю свае думкі і пачуцці».

Усе вышэйназваныя мастачкі маюць мастацкую адукацыю, працуюць у гімназіі-каледжы. З задавальненнем прыходзяць вучні да іх на заняткі, каб навучыцца ствараць прыгожае, не толькі маляваць, ствараць габелены, але і бачыць, думаць, назіраць. Абаяльныя, мілыя жанчыны аддаюць свае веды і душу педагагічай справе, займаюцца шматлікімі жаночымі хатнімі абавязкамі, знаходзяць час для творчасці.

Метадыстам дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва Палаца культуры працуе Таццяна Беразавец. Яна адна з тых, чыімі руплівымі намаганнямі ў выставачнай зале палаца быў арганізаваны шэраг выстаў. А вось і яе творчасць. Роспіс па шоўку (батык) прыйшоў да нас з Усходу і знайшоў сваё ўвасабленне. На выставе прадстаўлены работы Таццяны «Купальская ноч», «Талерантнасць», «Настрой». Акрамя батыка, яна займаецца саломапляценнем, вышыўкай, іншымі відамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, акварэллю.

Работы нашых мастачак знаходзяцца ў прыватных калекцыях Расіі, Польшчы, Германіі, Беларусі.



Выстава маладых мастакоў адкрылася ў цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча. Кожны яе твор – гэта свет адчуванняў, асабісты погляд на жыццё.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Анатоль Анішчук не толькі адзіны мужчына, творы якога прадстаўлены на выставе, але і мастак-аматар. Работы свае выстаўляе ўпершыню. Ён добры капеіст, аб чым сведчыць рэпрадукцыя К.-Ж. Вернэ «Марскі бераг каля Анцыо». Наведванне Пачаеўскага манастыра падштурхнула яго да напісання іконы «Маці Божая Пачаеўская». А вось нацюрморт, зімовы пейзаж, якія выклікаюць замілаванне ў наведвальнікаў.

У тэхніцы, накірунку Анатоль да канца яшчэ не вызначыўся, творчы пошук яго працягваецца. Спадзяёмся, што дадзеная выстаўка паслужыць імпульсам для яго далейшай творчасці.

Хочацца падзякаваць усім мастакам, хто прыняў удзел у выставе, пажадаць ім новых творчых поспехаў, здароўя для здзяйснення гэтага.

Наведайце выставу. Я думаю, што кожны з вас знойдзе работу сабе даспадобы, якая будзе адпавядаць вашым поглядам і настрою, бо гэтыя творы нясуць дабрыню і прыгажосць.

Выстава наладжана Мінскім абласным краязнаўчым музеем і цэнтральнай бібліятэкай імя М. Багдановіча, будзе працаваць да 25 кастрычніка 2003 года.

**Лілія НАГАЙЦАВА, загадчыца аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея.**

## Праграма свята да 500-годдзя Смаргоні

| | | |
|---|---|---|
| 8.00 | Урачыстае богаслужэнне | Царква, касцёл |
| 9.40 | Касцюміраванае шэсце | вул.Савецкая |
| 10.00 | Адкрыццё памятнага знака | Кінатэатр |
| 10.20 | Ускладанне кветак | Цэнтр горада |
| 10.30 | "З юбілеем, родны горад наш". | Плошча |
| 11.00 | "Сіла, маладосць, здароўе". Спартыўныя спаборніцтвы, народныя гульні | Спарткомплекс |
| 11.30 | Тэатралізаванае прадстаўленне | Стадыён |
| 12.45 | Выступленні аркестра пагранічных войскаў, школы падрыхтоўкі службовых сабак вайсковай часці 2044, Смаргонскага раённага аддзялення грамадскага аб'яднання кінолагаў | Стадыён |
| 12.40 | "Сёння жартаваць не грэх" | вул.Савецкая |
| 12.40 | Пачатак работы святочных падворкаў і горада майстроў | вул. Савецкая |
| 12.40 | "Зорачкі надзей". Канцэрт дзіцячых калектываў мастацкай самадзейнасці | Пляцоўка ля кінатэатра |
| 13.00 | "Для вас, аматары класікі".Канцэрт харавога калектыву Чырвонага касцёла г.Мінска, Гродзенскай харавой капэлы, харавой групы ансамбля імя Агінскага, струннага ансамбля выкладчыкаў ДШМ | Касцёл |
| 14.00 | Выступленне калектываў мастацкай самадзейнасці | Цэнтральная плошча, канцэртная пляцоўка |
| 14.00 | Сустрэча па баскетболу (юнакі, дзяўчаты) сярод камандаў Масквы, Смаргоні, Украіны | Спарткомплекс |
| 15.30 | Канцэрт калектыву Гродзенскай філармоніі "Белыя Росы" | Цэнтральная плошча, канцэртная пляцоўка |
| 16.00 | Паказальныя выступленні пейнтбольнага клуба | Гімназія №4 |
| 16.30 | Дэманстрацыя калекцыі адзення і прычосак Смаргонскага райбыткамбіната | Пляцоўка ля кінатэатра |
| 17.00 | Эстрадны канцэрт | Цэнтральная плошча |
| 20.00 | Ансамбль "Прымакі" з Беластока | Цэнтральная плошча |
| 20.00 | Кінафільм "Смаргонь – гісторыя і сучаснасць" | Ля кінатэатра |
| 21.00 | Светлавое лазернае шоу | Стадыён |

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Юбілей не за гарамі

**СМАРГОНЬ. На добраўпарадкаванне Смаргоні, рэканструкцыю цэнтра горада і аднаўленне фасадаў асобных будынкаў, праведзеных напярэдадні 500-гадовага юбілею, пайшло, паводле неафіцыйных падлікаў спецыялістаў, 7 мільярдаў рублёў. Гэтая сума перавышае паўтарагадовы бюджэт усяго Смаргонскага раёна.**

Паводле слоў старшыні райвыканкама **Станіслава Юргеля**, асноўныя сродкі выдаткаваныя з бюджэту раёна, тое-сёе ўдалося сабраць з прадпрыемстваў горада, выкарыстали адлічэнні ў дарожны і інвестыцыйны фонды, але немалыя сумы прыйшлося пазычыць. «Нічога, даўгі за год-два вернем, а ўсё, што зробім да знамянальнай даты, застанецца на дзесяцігоддзі», — кажа кіраўнік раённай адміністрацыі.



Сярод тых, хто рыхтуе ў гэтыя дні горад да свята, і брыгада Святланы Новік з будаўніча-мантажнага трэста №41. Калектыў у складзе 20 чалавек працуе на добраўпарадкаванні з ліпеня і гэтак, як і ўсе гараджане, з нецярпеннем чакае свята ў гонар юбілею Смаргоні.

Фота Марыны СЛІЖ.

Падчас рэканструкцыі тратуары на Цэнтральнай плошчы горада ўклалі спецыяльнай пліткай, дарогі заасфальтавалі, разбілі клумбы і абсталявалі аўтастаянкі. Рэстаўравалі помнікі, у тым ліку і правадыру сусветнага пралетарыяту. Рэканструявалі і аднавілі многія суседнія з цэнтрам будынкі — райвыканкама, Палаца культуры, раённага аддзела адукацыі, ваенкамата, вузла сувязі. Інтэнсіўна ідзе дабудова Палаца шлюбаў, аднаўленне чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў, гарадскога парку; будуецца праваслаўная бажніца, пераўтварыліся фасады некаторых жылых дамоў.

На шкадаванне жыхароў ускраін, іх спадзяванні на юбілейныя «падарункі» не спраўдзіліся — сродкаў на добраўпарадкаванне прыватнага сектара не хапіла.

**Дзмітрый РАГАВЕЦ, БелаПАН.**

■ ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ЭКАЛОГІІ

# Атруту хаваюць у шахтах

**СМАРГОНЬ. Людзей у ахоўных камбінезонах і з процівагазамі, якія пачалі з'яўляцца ў вёсках на Смаргоншчыне, вяскоўцы прыкмецілі даўно. Спачатку прынялі іх за чорных капацеляў, а потым заўважылі, што часта бываюць яны на тэрыторыі былой ракетнай часці ў Бялкоўшчыне.**

Ці не зноў збіраюцца расквятараваць тут вайсковую часць? А можа, зброю шукаюць? – гадалі.

Адгадка аказалася прасцейшай. Аказваецца, у часы застою мы жылі настолькі багата, што таго багацця хапае нам і зараз. Маю на ўвазе пестыцыды і сродкі аховы раслін, якія калгасы і саўгасы куплялі і захоўвалі ў вялікіх памерах.

Праўда, багацце тое ператварылася ў сваю супрацьлегласць і ад доўгага захоўвання стала небяспечным.

Датчане разам з беларускім навукова-даследчым цэнтрам "Экалогія" распрацавалі сумесны праект "Даследванне і ўтылізацыя непрыгодных пестыцыдаў у Беларусі". Дацкі бок выдаткаваў на рэалізацыю праекта 250 тысяч еўра. За гэтыя сродкі датчане паставілі на Беларусь 2 тысячы ёмістасцяў, якія не разбураюцца ад агрэсіўных хімічных рэчываў.

Датчане таксама аплачваюць работу людзей, якіх спецыяльна ўзялі для выканання ўтылізацыі. Яны робяць і якасную экспертызу работ.

Частку тэтага гранта атрымала Гродзеншчына. Нягодныя пестыцыды – а іх у вобласці каля 600 тон, будуць утылізаваць у двух раёнах. На Смаргоншчыну прывозяць хімікаты з сямі раёнаў. Такой інфармацыяй падзяліўся з карэспандэнтам начальнік смаргонскай раённай інспекцыі па экалогіі і ахове навакольнага асяроддзя **Іосіф Велькашынскі**.



Знайшлося прымяненне герметычным шахтам, што засталіся пасля адной з ракетных часцей, якая дыслакавалася ў вёсцы Бялкоўшына Смаргонскага раёна. Сюды, на ўтылізацыю, дастаўляюць нягодныя хімікаты з сямі раёнаў Гродзеншчыны. Спецыялісты сцвярджаюць, што ўсе работы вядуцца пад кантролем, а схаваныя пад зямлёй хімікаты не трапляюць у навакольнае асяроддзе.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Смаргоншчыну выбралі невыпадкова – тут пасля вайскоўцаў засталіся герметычныя шахты, у якіх і ўстанаўліваюць ёмістасці. Хімікаты ў іх збіраюць разам з зямлёй, рэшткамі дошак, тары, у якой яны захоўваліся. Бочкі закупорваюць і ставяць на захоўванне ў былыя ракетныя шахты. Так выключаная ўсялякая верагоднасць трапляння атруты ў наваколле.

На думку эксперта з Даніі **Стына Руда**, смаргонцам не варта непакоіцца, што з палавіны вобласці пестыцыды вязуць да іх. Усе работы вядуцца пад кантролем. Людзі спецыяльна навучаныя, маюць ахоўную вопратку, амуніцыю. А схаваныя пад зямлёй хімікаты не трапляюць у навакольнае асяроддзе.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 25.09 руб. | 2.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2105,00 | 2110,00 |
| Еўра | 2412,12 | 2463,64 |
| Злоты | 537,33 | 538,94 |
| Літ | 698,06 | 713,61 |
| Расійскі рубель | 69,12 | 69,02 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2100/2125 | 2105/2120 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 24.09 | 1.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12630 | 12630 |
| Сасіскі, 1 кг | 4130 | 4130 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1350 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | 1150 |
| Алей, 1 л | 2000 | 1900 |
| Маянэз, 200 г | 490 | 480 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 750 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 200 |
| Морква, 1 кг | 550 | 550 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1900 |
| Памідоры, 1 кг | 850 | 850 |
| Перац, 1 кг | 750 | 750 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 800 | 800 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 750 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2600 | 2500 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 4900 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | 2500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 10000 | 10000 |

## Тэатр ў бібліятэцы

СМАРГОНЬ. У апошнюю нядзелю верасня ў гарадской бібліятэцы №2 адбылася сустрэча клуба "Алеся" з рэжысёрам залескага тэатра "Батлейка" Алінай Грынчук і загадчыцай пастановачнай часткі Вольгай Грышан. Членам клуба расказалі пра гісторыю батлейкі, яе асаблівасці і паказалі невялікае прадстаўленне.

**Святлана ЦІШКО.**

■ СЛУЖБА «01»

## Пачаўся месячнік

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 па 31 кастрычніка ў горадзе і раёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі.**

За прайшоўшы перыяд адбылося 110 пажараў. У агні загінула 15 чалавек, а страты склалі больш за 235 мільёнаў рублёў. Асноўныя прычыны – неасцярожнае абыходжанне з агнём (43 пажары), няспраўнасць пячнога ацяплення (18), парушэнне правілаў устройства і эксплуатацыі электраабсталявання (14), наўмысныя падпалы (18). Назіраецца тэндэнцыя да памяншэння пажараў, якія адбываюцца з прычыны дзіцячага свавольства.

За час правядзення месячніка пажарнай бяспекі будуць адкарэкціраваныя функцыянальныя абавязкі службовых асоб, на якіх ускладзена забеспячэнне пажарнай бяспекі, праведзены практычныя трэніроўкі дзеянняў на выпадак узнікнення пажару. Плануецца праверыць тэхнічны стан сістэм аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі і тушэння, апавяшчэння, дымавыдалення, вонкавага і унутранага супрацьпажарнага водаправода і інш. Да гэтай работы будуць далучаны пазаштатныя пажарныя інспектары, участковыя інспектары міліцыі, члены аглядавых камісій, якія будуць працаваць на нашу з вамі карысць.

**Андрэй КАЙКО, інспектар гарпажнагляду Маладзечанскага гарадскога і раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях.**

## У мяне баліць жывот. Вось.

**Як мы адносімся да свайго харчавання? Медыкі упэўненыя – абыякава.**

У нашым рацыёне рэдка сустракаюцца рыбныя стравы, агародніна, фрукты, кашы, шматкі, вотруб'е. Няправільнае харчаванне павольна і непрыметна аказвае адмоўны ўплыў на функцыянаванне ўсіх органаў страўнікава-кішачнага тракту і, у канчатковым выніку, на нашым самаадчуванні. Часцей многія пераносяць асноўны прыём ежы на вячэрнія і начныя гадзіны, што хутка "дэзарганізуе" нармальную работу стрававальнай сістэмы і не забяспечвае неабходнага пераварвання ежы. А святы з вялікімі застоллямі? Калі да гэтых звычак дадаць сядзячы лад жыцця, атлусценне, злоўжыванне алкаголем, становіцца зразумела, чаму павялічваецца колькасць людзей, якія скардзяцца на расстройствы страўнікава-кішачнага тракту.

Вяртаючыся з водпуску, камандзіроўкі, усе скардзяцца на праблемы са страваваннем. Гэта лёгка патлумачыць: страўнік ледзь прыстасуецца да нязвычнай ежы, як яму трэба зноў перастройвацца.

Праблемы са страваваннем ёсць у пажылых людзей. Пенсіянеры з прычыны ўзростных змяненняў з боку ўнутраных органаў ці няпростых сацыяльных умоў не могуць забяспечыць сабе рацыянальнае харчаванне. Непакоіць медыкаў і рост захворванняў страўнікава-кішачнага тракту сярод дзяцей і падлеткаў. На боль у жываце скардзіцца амаль што кожны другі школьнік. Слізістая страўніка запаляецца ад пераядання і нерэгулярнага харчавання, ад ежы "усухамятку" і ад любові да вострых, вэнджаных прадуктаў.

Няправільнае харчаванне, перанесеныя хваробы, алкаголь садзейнічаюць парушэнню функцыі падстраўнікавай залозы, што выпрацоўвае ферменты, якія пераварваюць ежу. У выніку таго, што ферментаў вырабляецца менш, чым трэба, ежа пераварваецца дрэнна, узнікае павышанае газаўтварэнне, боль у жываце, праблемы са стулам, парушаецца ўсмоктванне карысных рэчываў, якія неабходныя нашаму арганізму.

Паколькі сваіх ферментаў не хапае, медыкі рэкамендуюць выкарыстоўваць прэпараты, якія ўтрымліваюць ферменты падстраўнікавай залозы. У самую эфектыўную і бяспечную групу ферментных сродкаў уваходзяць прэпараты, якія ўтрымліваюць у сваім саставе ферменты ліпазу, пратэазу і амілазу. Яны забяспечваюць пераварванне і ў выніку засвойванне тлушчаў, бялкоў і вугляводаў – асноўных пажыўных рэчываў, з якіх будуецца наш арганізм. Існуюць і больш складаныя прэпараты, якія акрамя гэтых трох ферментаў падстраўнікавай залозы ўтрымліваюць і іншыя кампаненты, але назначэнне гэткіх прэпаратаў трэба ўзгадняць з доктарам, бо яны могуць не ўсім падыходзіць.

Ферментныя прэпараты можна выкарыстоўваць і пры пераяданні, ужыванні вялікай колькасці тлушчаў, вэнджанай ці іншай цяжка пераварваемай ежы. Неабходны ферментныя прэпараты і пажылым людзям для паляпшэння стрававання. Акрамя таго, калі вам назначаны рэнтген ці ультрагукавое даследаванне брушной поласці, то для пастаноўкі правільнага дыагназу рэкамендуецца ўжываць ферменты для памяншэння газаўтварэння.

*Вячаслаў Ткач.*

## Зноў вучэнні

МАЛАДЗЕЧНА. У адпаведнасці з планам асноўных мерапрыемстваў па надзвычайных сітуацыях і грамадзянскай абароне на 2003 год, у горадзе будзе праведзена камандна-штабное вучэнне па грамадзянскай абароне. У перыяд з 7 па 9 кастрычніка плануецца правесці праверку сістэмы апавяшчэння з практычным запускам электрасірэн, гучнагаварыцеляў з выкарыстаннем радыётрансляцыйнай сеткі горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна.

Паважаныя жыхары горада і раёна, не пужайцеся людзей у спецадзенні і гучных сірэн, бо гэта нішто іншае, як вучэнні.

**Маладзечанскі гаррайаддзел па надзвычайных сітуацыях.**

■ СВЯТА

# У госці да Агінскага

**СМАРГОНЬ. Дзень нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага святкавалі 28 верасня ў Залессі.**

Госці сюды прыязджаюць штовосень з 1990 года, калі **Сяргей Верамейчык** пачаў ладзіць такія мерапрыемствы. Толькі на гэтым свяце можна ўбачыць самых розных людзей адначасова: сталічнага студэнта і залескага пенсіянера, гаваркога афіцэра Паўловіча і паважнага пана Скіргайлу Паланецкага з сапраўднай валынкай у руках.

Свята пачыналася а 12 гадзіне. Гасцей, што прыбывалі на цягніках, машынах, аўтобусах, веласіпедах і пешшу, сустракалі тры дзяўчыны ў незвычайных капелюшах. Тканіна дакладна перадавала асноўныя архітэктурныя асаблівасці палаца Агінскага, альтанкі Амеліі і млына. Такім чынам, дзяўчаты сімвалізавалі саму сядзібу. У гэтых “альтанкі, палаца і млына“ можна было набыць праграму свята, спеўнік, кнігу Сяргея Верамейчыка “Міхал Клеафас Агінскі“ і “Нашу Ніву“.

Госці актыўна дапамагалі арганізатарам: віляйчане насілі лаўкі, маладзечанцы распальвалі вогнішча, каб варыць бульбу, мінчанкі гэтую бульбу гатавалі.

Культурная праграма была лягчэйшая, чым два гады таму, калі дзеці са студыі “Альтанка“ спявалі оперу. Спачатку Сяргей Верамейчык правёў экскурсію па сядзібе. Затым гучалі музычныя кампазіцыі ў выкананні гурта вілейскай этнашколы №6. Яны чаргаваліся з выступленнямі ўдзельнікаў гульні “Паўночна-Афінскае кола“, якія пераапраналіся ў касцюмы 19 стагоддзя, арандаваныя ў купалаўскім тэатры, і гаварылі ад імя сяброў Агінскага: гувернёра Жана Ралея, паэта Яна Ходзькі, архітэктара Пусэ.

Увогуле ў Залессе штогод прыязджаюць прыкладна адны і тыя ж людзі, таму не перашкаджаюць адзін аднаму адпачываць: хочаш вадзіць карагод пад гукі валынкі – калі ласка, можаш слухаць музыку, седзячы на лаўцы, а можаш ляжаць на траўцы.

Госці з Віцебска, што пазнаёміліся ў Залессі, калі былі студэнтамі, і ажаніліся, на гэты раз прыехалі з дачкой Амеліяй і пачаставалі ўсіх пячэннем.

Сёлета ў Залессе не прыехалі ні Віктар Шалкевіч, ні ўраджэнец Смаргоні Уладзімір Някляеў. Але дэвіз арганізатараў мерапрыемства “Зрабі сабе свята сам“, таму ніхто не сумаваў.

**Святлана ЦІШКО.**



Гасцей, што прыбывалі на свята ў Залессе, сустракалі дзяўчаты ў незвычайных капелюшах.

Фота Святланы ЦІШКО.



Адзін з арганізатараў свята Юрка Рурак кажа: «У жніўні 2001 года я з тэатрам “Жывое слова“ вандраваў праз Залессе і пазнаёміўся з Сяргеем Верамейчыкам. У верасні таго ж года ўпершыню трапіў на дзень нараджэння Агінскага, выходзіў у касцюме афіцэра Паўловіча, які выратаваў жыццё Агінскаму. З таго часу выконваю яго ролю штогод. Сам Агінскі па-за крытыкай і спробамі спарадзіраваць, таму такога персанажа ў нашай гульні няма.

Працую ў Мінску, у Залессе наязджаю спарадычна. У сакавіку-красавіку рыхтуемся да талакі, на якой прыбіраем сядзібу. У жніўні збіраемся, каб прадумаць гэта свята.

Мы нікога спецыяльна не запрашаем ў Залессе, толькі інфармуем людзей, што свята будзе. І кожны можа прыехаць. Праблема толькі ў тым, што людзі прывыклі, каб іх весялілі. Такі стэрэатып трэба паступова ламаць. Наша размова часта перапынялася: дзяўчаты хацелі сфатаграфавацца з Юрам-афіцэрам. На пытанне, хто карыстаецца такой папулярнасцю ў жанчын, Рурак, ці афіцэр Паўловіч, Юры адказаў:

– Не ведаю. Спытаю пры нагодзе ў Паўловіча.

Фота Святланы ЦІШКО.

## Юбілей у Міхалішках

**АСТРАВЕЦ. 28 верасня вядомая яшчэ са старажытнасці вёска Міхалішкі на Астравеччыне сабрала нямала гасцей. Каля дзвюх тысяч каталікоў мясцовай парафіі святкавалі юбілей касцёла Архангела Міхаіла.**

Такіх старажытных бажніц на Беларусі захавалася няшмат. Ні час, ні людзі, ні грамадскія пераўтварэнні не разбурылі стары касцёл, пабудаваны ў стылі барока. Фрэскі і скульптуры дванаццаці апосталаў, ды і сам будынак захаваліся з 1653 года, а вось абразы новыя, пасляваенныя. Трынаццаць гадоў таму зламыснікі выкралі некаторыя найбольш каштоўныя абразы, а восем месяцаў таму храм пацярпеў ад выкрадальнікаў зноў. Адсюль скралі два старажытныя абразы з выявамі Маткі Божай і Святой Ганны.

Свой юбілей касцёл адзначыў велічна і ўрачыста. Да свята яго спецыяльна ўпрыгожылі, адрамантавалі, вакол развесілі каляровыя стужкі і гірлянды.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

## Новы рэстаран

**МЯДЗЕЛ. Бясплатнай дыскатэкай і куфлем піва для кожнага прысутнага было адзначана адкрыццё новага рэстарана на Нарачы.**

У мінулую суботу ў Купе (курортны пасёлак Нарач) адчынялі новы рэстаран. Назвалі яго “Азёрны“. У двухпавярховым памяшканні па вуліцы Зялёнай размясцілі бар, танцзалу, залу для боўлінга і для більярда і сам рэстаран. У адкрыцці бралі ўдзел кіраўнік справамі прэзідэнта **Галіна Жураўкова** і старшыня Мінскага аблвыканкама **Мікалай Дамашкевіч**.

Аднача́сова адчынілі новую сталоўку і залу ў санаторна-аздараўленчым комплексе “Прыазёрны“.

**Наталля МІКАЛАЕВА.**

■ НАВІНЫ РЭГІЁНУ

## На сесію – з заплечнікам

**АСТРАВЕЦ. Многія з дэпутатаў раённага савета 26 верасня пашкадавалі, што прыехалі на сесію ў звычайным выглядзе, а не ўзялі з сабой спартыўны абутак ды касцюмы.**

Напярэдадні Сусветнага дня турызму старшыня раённага савета **Ірына Шляхтун** прапанавала народным абраннікам паразважаць аб развіцці спорту, турызму і фарміраванні здаровага ладу жыцця на Астравеччыне.

І зрабілі гэта не ў цеснай зале, а праехалі ў самы аддалены сельсавет раёна – Спондаўскі. Яго выбралі таму, што тут знаходзіцца чатырнаццаць рэдкіх па прыгажосці азёраў, якія плануецца выкарыстоўваць для экатурызму. Для гэтага распрацаваныя два турыстычныя маршруты. Па адным з іх і прапанавала прайсці дэпутатам іх аўтар — вялікі знаўца роднага краю, настаўніца **Вольга Караткевіч**.

На сесіі прынята праграма развіцця фізічнай культуры і спорту на Астравеччыне.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

■ ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ

# Знаёмцеся – кіяскёр

**У газетным кіёску на вуліцы Машэрава працуюць Алена Малевіч і Вольга Парчэўская, якая абрала для сябе прафесію сваёй маці.**

Вольга пачала зарабляць свае грошы з 15 гадоў. Была памочнікам выхавацеля ў дзіцячым садзе. Пасля вызвалілася месца кіяскёра. Маці Вольгі Парчэўскай добра ведала тонкасці гэтай працы, бо сама працавала ў кіёску “Саюздруку“. Спачатку дапамагала дачцэ: і парадамі, і справаздачу напісаць. Пачынала Вольга падменным кіяскёрам. Пастаяннае рабочае месца з'явілася толькі напярэдадні дэкрэтнага водпуску.

Сваёй працай Вольга задаволеная: увесь час сярод людзей, месца бойкае, выручка вялікая. Кіёск новы, зачыняецца на ралеты, таму не трэба штораніцы выстаўляць тавар на паліцы. Тут жа і мужа сабе знайшла. “Ён аматар рыбалкі і часта купляў «рыбацкія» газеты. Слова за слова – так і пазнаёміліся“, – расказвае Вольга.

Пакупнікоў яна, як настаўніца вучняў, не падзяляе на любімых і нелюбімых. Шмат каго ведае, памятае, хто што купляе. Небяспечныя толькі мужчыны, што ў пятніцу ўвечары вяртаюцца дадому. Яны ўжо адзначылі канец працоўнага тыдня і звычайна спрабуюць абаперціся на кіёск. А там шкляныя вітрыны. Пакуль не было шклопакетаў, устаўлялі новае шкло раз на 2 месяцы.

Жыхары мікрараёна бяруць па некалькі газет рознай палітычнай скіраванасці. Купляюць “Народную волю“ і “Советскую Белоруссию“ са словамі: “Пачытаем і параўнаем“. Адначы мужчына набраў штук дзесяць розных выданняў на 6 тысяч рублёў.

Нам, пакупнікам, здаецца: сядзі сабе ды прадавай газеткі, а на самой справе, работы – непачаты край. Трэба і тавар прыняць, і спісанне газет падрыхтаваць, і тую ж справаздачу напісаць. Так што вельмі не насядзішся.

**Святлана ЦІШКО.**



Вольга Парчэўская прадае газеты і часопісы ўжо 10 гадоў.

Фота Святланы ЦІШКО.




**Прызнайцеся: не заўсёды, купляючы газету альбо часопіс у кіёску, вы звяртаеце ўвагу на таго, хто падае тавар. У нашай новай рубрыцы “Знаёмцеся – кіяскёр“ мы і раскажам пра людзей, якія знаходзяцца па той бок акенца. Паверце, ім ёсць пра што расказаць…**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Мастацтва для роздуму

**Працяг. Пачатак у №38. Гэта публікацыя працягвае расказ пра скульптара Уладзіміра Церабуна, які адзначае ў гэтыя дні 30-годдзе сваёй творчай дзейнасці.**

У сваіх заўсёды ўсхваляваных успамінах Мікалай Пятровіч кажа мне:

— Ведаеш, бачу, твой брат стомлены ад такой працы, пачынае збіраць сумку, каб ехаць дахаты, адчуўшы, што дыплом ужо ў кішэні. А як быць з заканчэннем усяго комплексу, ды трэба правесці яго адкрыццё?

Зноў пачалася праца не менш складаная і цяжкая.

Нарэшце адкрыццё помніка адбылося. На яго мы прыехалі ўсёй раднёй з дзецьмі. Смаргонская райсельгастэхніка выдзеліла нам невялічкі аўтобус, у які мы ледзь змясціліся.

Адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Дальва” было ўсенародным. Мноства людзей з навакольных вёсак, машын, аўтобусаў. Усюды мікрафоны, тэлевізійныя камеры, у магутных дынаміках гучыць жалобная музыка Роберта Шумана “Летуценні”, побач з вайскоўцамі ў ганаровай варце застылі піянеры.

Людзі плакалі, успаміналі, дзе была чыя хата. А кветак было столькі, што імі можна было засланць усю гэту гаротную зямлю.

Уладзіміру тады было не да нас. Яго віншавалі, ён не мог вызваліцца ад рэпарцёраў. Гэта была яго першая зорная гадзіна, якую ён заслужыў.

Гадоў праз дзесяць я прапанаваў маладзечанскім фотааматарам з’ездзіць на эцюды ў Дальву. Лагойшчына наогул прыгожая, асабліва восенню. З лагойскай шашы мы знайшлі ўказальнік і прыехалі без блытаніны.

Зачараваныя нейкай незвычайнай строгасцю, утульнасцю і камернасцю, мы доўга не маглі адкрыць свае фотасумкі. Вядомы фотамастак Аляксей Кузьміч Фяцісаў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў вельмі ўражаны. І толькі праз некаторы час сказаў адно слова: “выдатна”.

Па сцяжынцы з гаспадарчай сумкай ішла нейкая жанчына, якая нас не заўважыла. Падышоўшы да скульптуры, яна перахрысцілася, дастала нешта з сумкі і паклала на руку хлапчуку. Азірнуўшыся па баках, пайшла далей сваёй нетаропкай хадой, застаўшыся сам-насам са сваімі мацярынскімі думкамі.

У час здымак мы заўважылі, што яна паклала дзіцяці цукеркі. Слёзы на вачах доўгі час перашкаджалі мне працаваць з фотаапаратам. Толькі тады зразумеў, што помнік жыве ў народзе.

Як лепшаму выпускніку Уладзіміру быў прапанаваны прыгожы горад над Нёманам — Гродна. Атрымаў майстэрню, і творчая праца пачалася. Вопыт прыходзіў з гадамі. Пасябраваў з цікавым самадзейным скульптарам і мастаком Аляксандрам Іванавічам Ліпенем. Вопытны майстар падказаў, як лепш рабіць формы, каб адліўкі атрымаліся больш якасныя. Можна зрабіць так, што, здымаючы форму, адламаюцца важныя і патрэбныя дэталі, якія потым не прылепіш. Для гэтага ёсць спецыяльны цэх і людзі, якія з маленькай скульптуркі могуць зрабіць манумент любых памераў. Аўтару застанецца толькі нешта крыху падправіць ці падчысціць. У Гродзенскім абласным мастацка-вытворчым камбінаце мне давялося бачыць працу гэтых таленавітых людзей. З іх талентам і аўтарытэтам лічыцца любы скульптар.

Заўзяты кінааматар, вядомы гродзенскі мікрахірург Уладзімір Радзіловіч здымаў цікавейшы фільм пра Валодзю. У аснову пакладзена праца мастака над адным творам ад першай жмені гліны да яе экспазіцыі на выстаўцы. Стужка “Расстраляная песня”, прысвечаная памяці чылійскага патрыёта і спевака Віктара Хары, была пераможцай самых прэстыжных конкурсаў аматарскіх кінафільмаў.

Пасля паказу фільма па тэлебачанні пра Валодзю Церабуна і Уладзіміра Радзіловіча сталі гаварыць як пра таленавітых творчых асоб, мастакоў і аднадумцаў.

Пры нашай нядаўняй сустрэчы з Уладзімірам Міхайлавічам Радзіловічам у майстэрні брата я зразумеў: чым большы спецыяліст, тым больш яму ствараюць розных перашкод.

У яго было сваё аддзяленне з самымі сучаснымі электроннымі мікраскопамі і апаратурай, якую дапамог набыць вядомы гродзенскі завод “Азот”. Яго таленавітымі рукамі было зроблена тры тысячы складаных аперацый, але ён ні перад кім не кланяўся, за што і паплаціўся. Створанае ім аддзяленне закрылі, і таленавіты мікрахірург, сябар Рэната Акчурына, у самым росквіце творчых сіл сёння працуе дзяжурным доктарам на Гродзенскай станцыі “хуткай” дапамогі.

Быў час, калі мастакі былі вельмі патрэбныя і паважаныя людзі. Жывапісцы-партрэтысты камплектамі пісалі партрэты членаў Палітбюро ЦК КПСС. Скульптары стваралі мемарыяльныя дошкі, помнікі, калгасы і гарады, упрыгожвалі паркі, скверы і фантаны. Уладзімір шмат зрабіў партрэтаў У.І.Леніна розных памераў. На палову сцэны — у важную афіцыйную ўстанову. Крыху меншых, са стройным радком гузікаў — у студэнцкія фае, а зусім маленькіх ды кучаравых, як на акцябрацкай зорачцы, — для дзіцячых садоў. Заказы ледзь паспявалі выконваць.

Мастакі-афарміцелі пісалі маральны кодэкс будаўніка камунізму і выконвалі вялізныя шчыты з малюнкамі і лічбамі, колькі будзе за пяцігодку мяса, малака, сталі, нафты і вуглю на душу насельніцтва.

Усім не дагодзіш, але той час скончыўся. Ніякіх заказаў, ніякай перспектывы на будучыню. Мастакі ў роспачы.

З’явіўся новы герб Рэспублікі Беларусь “Пагоня”. А іх на ўстанову трэба няшмат, ды і колькі можна зарабіць на гэтых коніках. Нарэшце і конікаў не стала.

Замест скульптуры Уладзімір заняўся керамікай, прасцей кажучы, сеў за ганчарны круг.

Як старшыню Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза мастакоў (для гэтай пасады ён павінны быў уступіць у КПСС), яго хвалявалі людзі і іх сем’і. Як знайсці выйсце з сітуацыі, якая склалася, не ведаў ніхто.

Мастакам сказалі: “Думайце самі, як зарабляць грошы. Пакуль што не да мастацтва”.

На выстаўкі, нават самыя лепшыя, перасталі хадзіць людзі. Салон-магазін не даваў ніякага прыбытку. Мастакі без заработнай платы. Няма чым заплаціць ні прадаўцу, ні прыбіральшчыцы выставачнай залы. Уладзімір адчуў, што за сем з паловай гадоў на гэтай складанай адміністрацыйнай пасадзе яго стала падводзіць сэрца. Як Уладзіміра не ўгаворвалі ў Мінску не пакідаць пасаду, ён адмовіўся.

Увесь час наша мастацтва трымалася на адным энтузіязме, а яго на кароткае жыццё мастака не хапае.

Уявіце сабе, колькі працы і сродкаў укладвае мастак, каб прыняць удзел альбо зрабіць сваю персанальную выстаўку.

Творы з гіпсу на выстаўку не бяруць, бо іх лёгка пашкодзіць. Давай з бронзы, алюмінію, каменю, мармуру ці дрэва. Адліць невялічкую кампазіцыю ці фігурку з бронзы сёння каштуе велізарных сродкаў, а гэта пад сілу не кожнаму.

Як твор прывезці з Гродна ў Мінск. Толькі па чыгунцы. Купі білет, выберы час, кінуўшы ўсе справы, і ў дарогу. Потым гэтую цяжкую скульптуру трэба на таксі прывезці ў Палац мастацтваў. Пасля выстаўкі трэба ехаць яшчэ раз, каб яе забраць. Адны толькі расходы, і ўсё гэта за свой кошт.

Раней да рэспубліканскіх тэматычных выставак выдзяляліся сродкі, заключалася з мастаком дамова на адзін з твораў, які потым будзе закуплены. Ідзеш па выстаўцы і бачыш, што за рамку ўстаўлена маленькая кардонка. Гэта азначае, што работа адабрана для Дзяржаўнага мастацкага фонду экспертнай камісіяй. Няхай навязвалася мастаку тая альбо іншая тэматыка, але яны працавалі і рабілі выдатныя творы.

Не так даўно ў Мінску на адной з выставак спаткаўся з цудоўным мастаком Міхасём Вікенцьевічам Рагалевічам.

— Міхась! Віншую цябе з 70-годдзем. Чуў па радыё. Прабач, што не быў на тваёй выстаўцы, — неяк вінавата сказаў я.

— Дзякуй. Кажуць, выстаўка атрымалася. Завесіў амаль два паверхі Палаца мастацтваў. Шкада, што цябе не было сярод маладзечанцаў.

— Прабач за нясціплае пытанне. А ці закупілі што-небудзь?

— Не. Нічога.

— А за што жывеш? Ці маеш майстэрню?

Жыву на пенсію. Адзін навукова-даследчы інстытут даў мне невялікі куточак. Там і працую, а за гэта пішу ім розныя аб’явы.

Калі ўспамінаеш творчы шлях брата, дзіву даешся: колькі ён зрабіў і як паспяваў. Акрамя творчай работы вёў вялікую грамадскую дзейнасць як дэпутат Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Дзень быў разлічаны на хвіліны, якія ён звяраў па сваім любімым кішэнным гадзінніку. Гэта мы заўважылі, калі ў Гродне была арганізаваная выстаўка нашых маладзечанскіх мастакоў. Ён зусім не думаў пра сябе. Меў вялікі аўтарытэт і дапамагаў людзям. Хаця жыў у маленькай хрушчоўцы, але адмовіўся ад добрай кватэры, уступіўшы яе дырэктару мастацкага камбіната, які быў вельмі патрэбны для вытворчасці.

Неяк, калі быў у мяне ў Маладзечне, заўважыў некалькі прыгожых эцюдаў:

— Хто аўтар? – спытаў ён.

— Цікавы мастак, былы франтавік Мікалай Якаўлевіч Шчалканогаў з пасёлка Беразінскае Маладзечанскага раёна. Ён вельмі добры, мілы чалавек, але хворы пасля цяжкай кантузіі у час Вялікай Айчыннай вайны. У пасёлку арганізаваў студыю выяўленчага мастацтва, шмат вучняў вывеў у людзі.

Гэтыя словы кранулі Уладзіміра.

— Спытай у яго, ці згодны прадаваць праз наш салон-магазін. Мы можам яму дапамагчы.

Трэба сказаць, Мікалай Якаўлевіч згадзіўся. Эцюды высылаў па пошце. Іх афармлялі ў прыгожыя маленькія рамачкі пад шкло. Камісія вызначыла цану, якая вельмі задавальняла і яго, і пакупнікоў.

Мастак быў вельмі задаволены, бо хоць на нейкі тэрмін меў рубель на хлеб і свае мастакоўскія справы.

Дапамагаць і жыць для людзей – галоўны сэнс жыцця майго брата. Затое ў складаны час ён таксама атрымлівае падтрымку сваіх небагатых, але вельмі сумленных сяброў. Сярод іх Уладзімір Сцяпанавіч і Любоў Аляксееўна Буйневічы, Леанід Паўлавіч Кірыльчанка, Мікалай Пятровіч і Рыма Ігараўна Гірыловічы, Мікола Апанасавіч Апіек, Аляксей Аляксандравіч Скарабееў, Уладзімір Нічыпаравіч Дзяжко і Уладзімір Міхайлавіч Радзіловіч.

Гэтыя таленавітыя людзі дапамагаюць аплачваць за вучобу дачкі, майстэрню, тэлефон, электраэнергію, аказваюць транспартныя паслугі, прывозяць яму са сваіх агародаў садавіну і агародніну. Вось гэта сапраўднае сяброўства, якое сустрэнеш не часта.

З цягам часу Гродна ператварылася ў горад-кірмаш. Людзі з велізарнымі гандлёвымі сумкамі сталі проста надакучваць.

Падрасла дачка Наташа. Яна, як і бацька, вырашыла стаць мастачкай. Паступіла ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Цяжка было Уладзіміру пачуць словы сваіх калег, выкладчыкаў акадэміі.

— Валодзя. Зразумей нас правільна. Бюджэтных месцаў некалькі, а конкурс вялікі. Дык вось твая дачушка адна з першых на платную форму навучання.

Вось тут і пачалося. Быў вымушаны пакінуць Гродна, бо дачку не пакінеш адну ў вялікім горадзе. Ды і не наездзішся з Гродна ў Мінск кожны тыдзень. Адразу спатрэбіліся грошы. Заплаціць за вучобу, знайсці кватэру студэнтцы, набыць патрэбныя рэчы для вучобы і сёе-тое больш моднае з адзення.

Праз два тыдні пасля падачы заявы Саюз мастакоў выдзяляе Уладзіміру майстэрню. Людзі чакаюць яе дзесяцігоддзямі, а тут усяго за палову месяца.

Колькі спатрэбілася сіл, здароўя, сродкаў, каб вялізнымі фургонамі перавезці ўсё сваё мастакоўскае багацце ў Мінск.

Цяжка было развітацца са сваёй гродзенскай майстэрняй, дзе было столькі зроблена і ўсяго перажыта. Яшчэ больш цяжка было развітацца са сваімі творамі, але ён павінны быў аддзячыць хоць гэтым, бо ў мастака акрамя іх нічога больш не было.

**Юрый ЦЕРАБУН, член Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў.**

**Заканчэнне ў наступным нумары.**



**Скульптура “Жалейка” (дрэва), 1987 год.** Фота з сямейнага архіва Юрыя ЦЕРАБУНА.

 



# ROLLS-ROYCE

**«Роллс-Ройс» (Rolls-Royce PLC), англійская кампанія па выпуску дарагіх прэстыжных аўтамабіляў класа "люкс" і рухавікоў. 4 лютага 1971 года кампанія была абвешчаная банкрутам і рэфармаваная. Яе падзялілі на кампанію Rolls-Royce Ltd., якая ўключыла аддзяленне па выпуску рэактыўных рухавікоў (цяпер гэта Rolls-Royce PLC). У 1998 годзе яе набыў BMW. А таксама Rolls-Royce Motor Holding. Яна таксама выпускае аўтамабілі, камплектовачныя вырабы для аўтамабільнай і авіяцыйнай прамысловасці, дызельныя рухавікі, лакаматывы, лёгкія самалёты. У 1980 годзе зліласся з кампаніяй Vickers.**


Silver Ghost – "Сярэбраны прывід". Самы вядомы аўтамабіль ўсіх часоў і народаў. Праўда, не самы масавы. Прычына банальная. Каштаваў вельмі дорага, бо збіраўся, як і ўсе Ролс–Ройсы, уручную ды з дарагіх матэрыялаў.
Фота з архіва "РГ".

Назва кампаніі захоўвае памяць пра двух яе пачынальнікаў — бліскучым арыстакраце і спартсмене **Чарлзе Ролсе** і таленавітым і настойлівым інжынеры–самавуку **Генры Ройсе**. Першым удалым творам фірмы стаў 6–цыліндравы аўтамабіль 1906 года (мадэль 40/50). Яго трынаццаты экзэмпляр створаны ў 1907 годзе пры ўдзеле фірмы "Баркер", якая паставіла на шасі адкрыты пяцімесцавы кузаў і пафарбавала корпус ў сярэбраны колер (пасярэбранымі былі і некаторыя дэталі). Гэты "Сярэбраны прывід" (Silver Ghost) стаў самым вядомым аўтамабілем ў свеце, у якім вытанчанасць і дасканаласць ліній спалучаліся з самай высокай якасцю матэрыялаў і зборкі. А канструкцыя шасі была створаная класічна проста.

Зроблены Генры Ройсам матор з двух 3–цыліндравых блокаў з алюмініевым картэрам (рэдкасць у той час!), аснашчаны дзвюма свечкамі ў кожным цыліндры з двайной сістэмай запальвання — трамблёрнай і ад магнета, забяспечваў "Сярэбранаму прывіду" амаль бясшумны і плаўны ход. Знаўцы палічылі найважнейшай дэталлю аўтамабіля каленчаты вал, зроблены з такой ураўнаважанасцю, што левая і правая яго часткі былі ідэальна падобныя. Гэты аўтамабіль заявіў пра сябе на ўвесь свет удзелам ў 2000–мільнай гонцы па ўсёй Англіі, якая паказала і яго выдатныя спартыўныя здольнасці.

У Брытаніі аўтамабіль выпускаўся да 1925 года, а ў Злучаных Штатах – у 1920–1926 гадах. Канструкцыя, тып кузава, аддзелка пастаянна мяняліся, а якасць заставалася не проста высокай, а недасягальнай.

У 1929 годзе з'явілася мадэль "Фантом II" з рухавіком на 20% больш магутным за свайго папярэдніка. Прэстыж маркі "Ролс–Ройс" быў настолькі вялікім, што кампанія становіцца пастаўшчыком аўтамабіляў для брытанскага каралеўскага дома і шматлікіх арыстакратычных сямействаў свету.

У 1931 годзе да "Ролс–Ройс" далучаецца кампанія "Бэнтлі" з трывалай рэпутацыяй вытворцы дыхтоўных, дарагіх і надзейных спартыўных машын, па асноўных параметрах вельмі падобных на "Ролс–Ройсы". Марка "Бэнтлі" захоўваецца да нашага часу.

Ад 1966 года ў гаме кампаніі з'яўляюцца больш масавыя купэ і кабрыялеты. У 1982 годзе быў выпушчаны "Сярэбраны дух" (Silver Spirit), аснашчаны рухавіком V8, як лічаць спецыялісты, не без уплыву прадстаўнічых аўтамабіляў "Кадылака".

У 1971 годзе кампанія абанкруцілася. Але яе як нацыянальны здабытак выратаваў брытанскі ўрад, уклаўшы ў справу 250 млн. долараў. Раскошныя "Ролс–Ройсы" па–ранейшым робяцца ўручную, па індывідуальных заказах. Члены каралеўскай сям'і традыцыйна заказваюць "Ролс–Ройсы" (вядома, што жаданне цяпер пакойнай прынцэсы Дыяны заказаць спартыўную машыну небрытанскай вытворчасці выклікала шквал абурэнняў).

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ІМЁНЫ



## Генры Форд

**Генры Форд (Ford) (30 ліпеня 1863 — 7 красавіка 1947), амерыканскі інжынер, вынаходца і прамысловец, адзін з піянераў аўтамабілебудавання і пачынальнікаў аўтамабільнай прамысловасці.**

Адзін з васьмі дзяцей фермера–эмігранта з Ірландыі. Вучыўся ў вясковай школе. У 16 год захапіўся механікай.

У 1893 годзе пасля некалькіх гадоў эксперыментаў ён сабраў свой першы аўтамабіль. У 1895 годзе пабудаваў першы аўтамабіль з бензінавым рухавіком, а ў 1898 годзе зрабіў новую машыну, больш надзейную і лёгкую. У 1899 годзе разам з кампаньёнамі заснаваў "Дэтройцкую аўтамабільную кампанію", якая пазней стала звацца Henry Ford Company, але ў 1902 годзе пакінуў яе з–за нязгоды з палітыкай астатніх саўладальнікаў: ён ужо тады адчуваў, што аўтамабіль павінен стаць масавым і недарагім.

У 1903 годзе ён заснаваў Ford Motor Company. Надзейная мадэль "А" з электрычным запальваннем і незвычайнай кампаноўкай рухавіка прадавалася ўсяго за 850 долараў.

Між тым энергічны і працалюбівы вынаходнік займаўся ўдасканальваннем аўтамабіля, усё больш пераконваючыся, што аўтамабіль павінны стаць даступным для любога чалавека сярэдняга дастатку. У 1908 з'явілася славутая мадэль "Т", якая атрымала мянушку Бляшаная Лізі. З гэтага моманту для мільёнаў людзей Амерыкі (а затым і ў іншых краінах) пачалося новае жыццё. Аўтамабіль стаў асноўным сродкам перамяшчэння.

Але Генры Форд не заспакоіўся. І аднойчы прыйшоў да высновы, што самым слабым звяном на вытворчасці з'яўляецца чалавек. Яму патрабавалася ўсё больш рабочых, якія працавалі ўсё хутчэй, і лепшым сродкам дасягнення гэтага стала ўведзеная ў 1913 годзе ўпершыню ў свеце канвеерная тэхналогія зборкі аўтамабіляў, што дазволіла ўсяго за адзін год узняць прадукцыйнасць працы на 4060%, а таксама дасягнуць пры гэтым стандартызацыі і ўзаемазамяняльнасці дэталяў. Пры гэтым зарплата персаналу перавысіла сярэднюю па прамысловасці (5 долараў у гадзіну супраць 2,34), рабочы дзень скараціўся да 8 гадзін.

Празмерна аўтарытарны стыль кіравання Форда выклікае незадаволенасць. Генры перадае кіраванне кампаніяй сыну Эдселю, які не карыстаўся такім аўтарытэтам. У 1943 годзе Эдсель памёр, і стары Генры вярнуўся да кіраўніцтва кампаніяй, а ў 1945 годзе перадае справы любімаму ўнуку Генры–другому. Сваю маёмасць, якая ацэньвалася ў 600–700 млн. долараў, ён завяшчаў фонду свайго імя.

Яшчэ пры жыцці Генры Форд стаў легендарнай фігурай, сімвалам "стопрацэнтнага амерыканца".

**Мікола ГАЙДУК.**

■ АНЕКДОТЫ

## Замяні пракладку

У аўтасэрвісе:

— Машына не едзе!

— Пракладку мяняць трэба!

— Якую?

— Вушастую.

— А дзе яна?

— Паміж рулём і пярэднім сядзеннем.

## Катаецца яшчэ

У горадзе жывуць два сябры. Адзін загадвае трупярняй, а другі – дырэктар магазіна матацыклаў. Вечарам сябрук з трупярні тэлефануе ў магазін:

— Вася, ты колькі прадаў сёння матацыклаў?

— Пяць!

— Ага, значыць адзін яшчэ дзесьці катаецца!

## Адэсіты

У перапоўненым адэскім тралейбусе:

— Вы на наступным прыпынку выходзіце?

— Неа...

— Тады давайце мяняцца.

— Угу, а што ў вас ёсць?

## У дарозе

У дарозе ў дамы паламалася машына. Яна спыняе таксі і просіць таксіста дапамагчы ёй. Таксіст лезе пад капот, дама цікавіцца:

— Ну як, вялікая паломка?

— Мадам, калі б гэта быў конь, я б параіў яго прыстрэліць.

## Не ўвярнуўся

У судзе разбіраюць справу вадзіцеля, які збіў пешахода:

— Няўжо вы не разумееце, што, наехаўшы на пешахода, вы можаце нанесці яму цяжкія пашкоджанні?

— Канечне, разумею.

— Тады чаму вы не пастараліся ўвярнуцца ад яго?

— Я дакладна гэта і хацеў зрабіць, але ён таксама хацеў зрабіць тое самае, ну, і самі разумееце...

## У трамваі

У трамваі п'яны. Ледзь трымаецца на нагах. Адзін з пасажыраў звяртаецца да міліцыянера:

— Таварыш сяржант, п'яным дазваляецца ездзіць у трамваі?

— Тсс..., – абрывае яго п'яны. — Ты толькі трымайся прама і ніхто цябе не заўважыць.

■ КОНКУРС

## Выйграй прыз

**Чарговы тур нашага аўта–мотаконкурсу, які праводзім разам з Першай акумулятарнай кампаніяй. Пераможцу, якога вызначыць латарэя сярод тых, хто правільна адкажа на наша пытанне, як заўсёды, чакае прыз.**

Мінулы раз пытанне гучала наступным чынам.

Ён ніколі не супакойваўся на дасягнутым. І аднойчы прыйшоў да высновы, што самым слабым звяном на вытворчасці з'яўляецца чалавек. Яму патрабавалася ўсё больш рабочых, якія працавалі ўсё хутчэй, і лепшым сродкам дасягнення гэтага стала ўведзеная ў 1913 годзе ўпершыню ў свеце канвеерная тэхналогія зборкі аўтамабіляў, што дазволіла ўсяго за адзін год узняць прадукцыйнасць працы на 4060%, а таксама дасягнуць пры гэтым стандартызацыі і ўзаемазамяняльнасці дэталяў. Назавіце імя гэтага чалавека.

Адказ: Генры Форд–першы. На наша пытанне правільна адказалі маладзечанцы **Дыяна Дзягожская, Андрэй Шафаловіч, Павел Сярпейка,** пастаянны ўдзельнік конкурсу **Анатоль Шпілеўскі, П.С.Шэлег, Юрый Соснін, Міраіда Сярпейка,** віляйчане **Аляксандр Наркевіч і Наталля Герасімовіч.**



Каністра маторнага масла дасталася ў выніку жараб'ёўкі **Андрэю Шафаловічу**, якога мы віншуем і просім зайсці па прыз у рэдакцыю.

### Адкажыце на пытанне

**Лагатып якой аўтамабільнай маркі прадстаўлены на малюнку?**

Сярод тых, хто правільна адкажа на наша пытанне, будзе разыграны прыз.

Адказы дасылайце, калі ласка, на паштоўках. Тэрмін прыёму адказаў да 24 кастрычніка. Вынікі чарговага тура будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта–мота", у першым нумары лістапада – 7–га чысла.

**Мікола ГАЙДУК.**

 

# «Памый мяне!»,
## або «15 хвілін ганьбы, і я на дачы»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў горадзе 4 мыйкі машын. Адна з іх – аўтаматычная. Яе мы і наведалі.**

Мыйка з'явілася ў жніўні 2001 года. За гэты час праз яе прайшло шмат машын. Абслугоўваюць кліентаў аператары Анатоль Кулік і Сяргей Сарока.

Мыйка карыстаецца вялікім попытам. Там выкарыстоўваюць якасную хімію супраць насякомых на фарах і нумары. Зімой працуе сушка, прадзімаюцца замкі і апрацоўваецца рухавік. Бакі з "чароўнай" сумессю, якая прымушае машыны блішчаць, запаўняюцца шампунем, актыўнай пенай, воскам і васковым паскаральнікам.

Спачатку машыну пазбаўляюць пылу і пяску з дапамогай шланга з вадой пад вялікім ціскам. Затым у барацьбу з брудам уступаюць шчоткі і "чароўная" сумесь. Аўтамабіль хаваецца ў белай пене і шчотках і ўжо праз некалькі хвілін выглядае, як новенькі. Уся працэдура цягнецца каля 15 хвілін.

За дзень, калі добрае надвор'е, памыцца паспявае аўтамабіляў 30. Летам кліентаў менш, бо можна памыць машыну на дачы, у двары. А зімой тых, хто жадае быць чыстымі, больш. Выстройваецца вялікая чарга, і да канца дня яшчэ на 40-50 чыстых машын становіцца больш. Хто ж хоча, каб на яго брудным аўтамабілі напісалі "Памый мяне!", ці "15 хвілін ганьбы, і я на дачы"?

Аператарам Сяргею і Анатолю праца падабаецца. Гэта і новыя знаёмствы, і цікавыя зносіны, і задавальненне ад выкананага абавязку. На мыйку прыязджаюць не толькі мясцовыя жыхары, але і з суседніх раёнаў, абласцей, і нават з Літвы, Латвіі, Польшчы і Германіі. Вынікам задаволеныя ўсе, аднак бывае, што просяць памыць машыну знутры. Але мыйка такіх паслуг не аказвае, тады доўга (асабліва замяжоўцам) даводзіцца гэта растлумачваць. Побач стаіць пыласос — падыходзь, плаці грошы і сам абслужы свой аўтамабіль знутры. Цэны кліентаў таксама задавальняюць. Адчуваецца розніца паміж сталіцай і правінцыяй.



**У Маладзечне і іншых гарадах нашага рэгіёну пакуль не шмат аўтамыек. Па старой завядзёнцы вадзіцелі мыюць свае "тачкі" анучамі з вядра. Мыйкі, а тым больш аўтаматычныя, пакуль выключэнне з агульнага правіла.**

Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

Здараюцца і кур'ёзы – не без гэтага. Быў выпадак, калі машына заехала ў мыйку няправільна і, ад'язджаючы назад, каб стаць роўна, "уехала" ў аўтамабіль, які стаяў у чарзе. Абышліся без скандалу: крыху сапсавалі машыны, дык нашто яшчэ і нервы псаваць?

Святое правіла аўтаматычнай мыйкі – здымаць з машыны антэну, бо "бязлітасныя" шчоткі не шкадуюць яе, і калі нават пасля папярэджання вы не здымеце антэну, то можаце развітацца з радыё ў дарозе. Аднак ёсць такія аўтамабілі, у якіх "радыё-рогі" прыкручаны намертва, ды гаспадары ўсё роўна згаджаюцца памыць машыну.

Сяргей Сарока працуе на мыйцы з пачатку яе існавання. Памятае першую машыну, якую давялося мыць. Гэта быў "Міцубісі Галант" чырвонага колеру. За ўвесь час, які Сяргей працуе на мыйцы, яму давялося мыць толькі 2 "Запарожцы", у асноўным прыязджаюць іншамаркі. Быў і такі цікавы выпадак. На мыйку прыехала старая, як свет, "Волга", нават без шкла. Таму мылі яе і знутры. Напэўна, гаспадар хацеў здаць машыну ў музей.

Відавочна, што аўтамабіляў на дарогах большае, значыць, і кліентаў у мыйцы павінна быць больш. А зарплата Анатоля Куліка і Сяргея Сарокі прама прапарцыянальна залежыць менавіта ад колькасці памытых машын. Жывём...

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

## Музыка вінаватая ў аварыях!

**Як паказваюць даследаванні, не толькі размова па мабільным тэлефоне адцягвае ўвагу вадзіцеля. Магнітола, якая ёсць амаль у кожнай машыне, таксама нясе ў сабе вялікую небяспеку. Аказваецца, на выбар новай станцыі ў вадзіцеля ідзе прыкладна столькі ж часу, колькі і на набор нумара тэлефона — у сярэднім каля 12 секунд. Але ж за гэты час пры хуткасці 90 км/г аўтамабіль паспявае праехаць 300 метраў!**

Менавіта таму даследчыкі настойліва рэкамендуюць вадзіцелям пераключаць станцыі і настройваць гучнасць музыкі на святлафорах або карыстацца дыстанцыйнымі пультамі кіравання. Максімум, што можа сабе дазволіць вадзіцель пры яздзе, — гэта пераключаць загадзя абраныя музычныя каналы, якія знаходзяцца ў памяці магнітафона.

Дарэчы, не толькі сама наяўнасць магнітафона здольная павысіць рызыку трапіць у аварыю. Ізраільскі навуковец Уорэд Бродскі правёў даследаванні, якія паказалі, што шанцы трапіць у ДТЗ залежаць яшчэ і ад таго, якая музыка іграе ў аўтамабілі.

Калі вадзіцель слухае гучную музыку, то верагоднасць таго, што ён трапіць у аварыю, нашмат большая, чым у аматара спакойных і павольных мелодый. У групе з 28 чалавек былі сабраныя маладыя людзі з вадзіцельскім стажам каля 7 гадоў. Кожнаму з іх прапанавалі праехаць на аўтамабільным сімулятары, слухаючы пры гэтым розную музыку з рытмам ад 60 удараў у мінуту (лірычныя песні) да 140 удараў (рок, рэйв і іншае). У выніку пры праслухоўванні хуткай музыкі паддоследныя ў сярэднім у два разы часцей парушалі правілы дарожнага руху, стваралі аварыйныя сітуацыі і ўвогуле былі неахайнымі на дарозе.




# Якая іншамарка самая надзейная?

**Нямецкая кампанія TUV, якая займаецца правядзеннем тэхаглядаў аўтамабіляў, апублікавала рэйтынг надзейнасці аўтамабіляў, перадае інфармацыйнае агенцтва «AUTO-Conculting».**

Як і раней, практычна ва ўсіх "узроставых" катэгорыях лідзіруюць японскія аўтамабілі, і толькі Mercedes SL і Porsche 911 атрымалася парушыць гегемонію японцаў. Ну, а найбольш часта ламаюцца іспанскія Seat, італьянскія Fiat і Alfa Romeo, чэшская мадэль Skoda Favorit, а таксама амерыканскія Chrysler. Далёка не ўзорамі надзейнасці выглядаюць і французскія Renault — некаторыя мадэлі ламаюцца нават часцей, чым карэйскія Hyundai і Kia. А вось лідэры беларускага рынку сэканд–хэнд Opel, Volkswagen, Audi і інш. займаюць, як правіла, месца ў сярэдзіне табліцы.

Любімы многімі беларусамі Volkswagen Passat ва ўзросце 6–7 год заняў толькі 43 месца з 82 аўтамабіляў — Passat ламаўся у 15,2% выпадкаў, у той час як лідэр сярод аўтамабіляў 6–7 гадоў Mercedes SL меў паломкі толькі ў 5,5%. Для параўнання: горшай сярод 6–7–годак аказалася Alfa Romeo 145/146 – 29,8% паломак. Mercedes E–класа заняў 17 месца (11,2% паломак), а Opel Vectra 37 месца (14,5%).

### Аўтамабілі ўзростам 4–5 гадоў (месца, мадэль, % паломак)

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Porsche 91 1 | 3,5 |
| 1 | Toyota Picnic | 3,5 |
| 1 | Toyota Starlet | 3,7 |
| 4 | Porsche Boxster | 4,0 |
| 5 | Mercedes SLK | 4,2 |
| 6 | Toyota Carina | 4,3 |
| 7 | Subaru Justy | 4,9 |
| 8 | Mercedes SL | 5,1 |
| 9 | Subaru Leqacy | 5,3 |
| 10 | Mazda 323 | 5,4 |
| 10 | Mazda 626 | 5,4 |
| 10 | Suzuki Baleno | 5,4 |
| 10 | Toyota Corolla | 5,4 |
| 10 | Toyota RAV4 | 5,4 |
| 15 | Nissan Almera | 5,5 |
| 16 | Mercedes S-Klasse | 5,6 |
| 17 | Mercedes C-Klasse | 5,7 |
| 18 | Mazda MX-5 | 6,1 |
| 19 | BMWZ3 | 6,4 |
| 20 | Nissan Primera | 6,6 |
| 21 | Audi A3 | 6,8 |
| 22 | Honda Civic | 7,0 |
| 22 | Mercedes E-Klasse | 7,0 |
| 24 | Audi A6 | 7,1 |
| 24 | Suzuki Swift | 7,1 |
| 26 | Daihatsu Cuore | 7,2 |
| 26 | Opel Corsa | 7,2 |
| 28 | Mitsubishi Colt | 7,3 |
| 29 | Suzuki Vitara | 7,5 |
| 30 | Nissan Micra | 7,6 |
| 31 | BMW 7 | 7,7 |
| 31 | Mitsubishi Space Waqon | 7,7 |
| 33 | SAAB 900 | 7,9 |
| 34 | Ford Scorpio | 8,0 |
| 35 | Volvo 850 | 8,1 |
| 36 | Citroen Xantia | 8,2 |
| 36 | SEAT Arosa | 8,2 |
| 36 | Skoda Octavia | 8,2 |
| 39 | VW Polo | 8,3 |
| 40 | Mercedes A-Klasse | 8,4 |
| 41 | Volvo 940/960 | 8,6 |
| 42 | Honda Accord | 9,0 |
| 42 | SEAT Ibiza | 9,0 |
| 44 | Audi A8 | 9,3 |
| 45 | Peuqeot 406 | 9,6 |
| 45 | VW Golf/Bora | 9,6 |
| 47 | Audi A4 | 9,7 |
| 47 | FIAT Barchetta | 9,7 |
| 47 | Opel Vectra | 9,7 |
| 50 | SEAT Cordoba | 9,8 |
| 51 | Mitsubishi Galant | 9,9 |
| 52 | Hyundai Lantra | 10,2 |
| 52 | Opel Frontera | 10,2 |
| 54 | Mitsubishi Pajero | 10,3 |
| 54 | Opel Tiqra | 10,3 |
| 56 | Ford Mondeo | 10,5 |
| 56 | Renault Laquna | 10,5 |
| 58 | BMW 5 | 10,6 |
| 58 | Opel Astra | 10,6 |
| 58 | VW Passat | 10,6 |
| 61 | Peuqeot 106 | 10,7 |
| 62 | Peuqeot 306 | 10,8 |
| 63 | Ford Escort | 11,0 |
| 64 | Jeep Grand Cherokee | 11,1 |
| 65 | Nissan Serena | 11,3 |
| 66 | KIA Sephia | 11,4 |
| 66 | Renault Espace | 11,4 |
| 68 | BMW 3 | 11,8 |
| 69 | FIAT Marea | 12,0 |
| 69 | Hyundai Accent | 12,0 |
| 71 | Ford Ka | 12,3 |
| 71 | Ford Galaxy | 12,3 |
| 73 | Ford Fiesta | 12,4 |
| 73 | Lancia Y | 12,4 |
| 75 | Citroen Saxo | 12,5 |
| 75 | Fiat Punto | 12,5 |
| 75 | Mazda 121 | 12,5 |
| 75 | VW Sharan | 12,5 |
| 79 | FIAT Bravo/Brava | 13,0 |
| 80 | Renault Megane | 13,2 |
| 81 | Volvo S40/V40 | 13,3 |
| 82 | Opel Calibra | 13,4 |
| 83 | Mitsubishi Carisma | 13,8 |
| 84 | Opel Omega | 14,1 |
| 85 | Alfa Romeo Spider | 14,3 |
| 86 | Nissan Patrol GR | 14,4 |
| 86 | SEAT Alhambra | 14,4 |
| 88 | Citroen ZX | 14,9 |
| 89 | Peugeot 806 | 15,4 |
| 90 | Skoda Felicia | 15,6 |
| 91 | SEAT Toledo | 15,8 |
| 92 | Renault Twinqo | 17,0 |
| 93 | Alfa Romeo 145/146 | 17,4 |
| 94 | FIAT Cinquecento | 17,8 |
| 95 | Renault Clio | 19,1 |
| 96 | SEAT Marbella | 23,2 |
| 97 | Chrysler Voyager | 24,8 |

■ АНЕКДОТЫ

## У Грузіі

У сонечнай Грузіі за савецкім часам міліцыянер спыняе вадзіцеля, які паехаў на чырвонае святло:

— Ты чаму на чырвонае святло едзеш? Пішы тлумачальную!

Той, нядоўга думаючы, укладае ў правы трохрублёвую купюру і аддае міліцыянеру.

— Вось, дарагі, там усё напісана.

— Э, дарагі, ты на якое святло ехаў?

— На чырвонае...

— А чаму пішаш, што на зялёнае?

## Ён заплаціць!

У шыкарным аўто едуць дзве манашкі. Вядзе машыну дзяўчына. Манашка пытаецца:

— Хто вам купіў гэты лімузін? Тата?

— Не, ваш пробашч.

— А ён, нягоднік, нам кажа – бог вам заплаціць.

# Ад паравоза да электравоза

**Сёлетні год – юбілейны для аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў чыгуначнага вузла – лакаматыўнага дэпо. Споўнілася 100 год, як быў зацверджаны праект будаўніцтва і адбылася закладка падмурка гэтай гаспадаркі.**

Работнікі дэпо падрыхтаваліся да свайго юбілею належным чынам: зацвердзілі і выпусцілі вымпел, заказалі ў Польшчы кепку, выдалі кнігу па гісторыі дэпо і адкрылі музей гісторыі.



Аглядчык вагонаў Дзяніс Лоўчы працуе з больш сучаснай тэхнікай, але гэты паравоз, на яго думку, упрыгожвае горад. Фота Святланы ЦІШКО.

## З гісторыі чыгункі і чыгуначнага вузла Маладзечна

Гаварыць пра ўзнікненне паравознага дэпо (так яно называлася некалькі дзесяцігоддзяў) асобна ад гісторыі чыгуначнага вузла немагчыма, бо ўсё прадпрыемства і яго падраздзяленні цесна звязаны паміж сабой. Таму некалькі радкоў належыць прызначыць гісторыі першай чыгункі, што пралегла праз горад Маладзечна і дала пачатак развіццю буйнейшага чыгуначнага вузла ў Беларусі. Да таго ж хачу заўважыць той факт, што чыгуначны вузел Маладзечна і паравознае дэпо пачыналіся і раслі ў складзе расійскай чыгункі.

У 1871 годзе праз мястэчка Маладзечна, у якім было каля 800 жыхароў, пралегла чыгунка, якая мела назву Ландварава-Роменская. Станцыя Маладзечна па тым часе была прамежкавай. Абаротнае дэпо месцілася ў Залессі. Уяўляла наша станцыя сабой несамавіты драўляны будынак, невялікі пакгаўз. 4 кароткія пуці – вось і ўся аснастка. Да станцыі прылягалі два перагоны Маладзечна-Залессе і Маладзечна-Уша на 20 вёрст на адзін пуць. Станцыя была абгароджана чырвонымі дыскамі, а сродкам сувязі са знешнім светам быў тэлеграфны апарат Морзе, устаноўлены ў памяшканні дзяжурнага па станцыі. У 1876 годзе да Ландварава-Роменскай была далучана эканамічна стратная Лібаўская чыгунка. Аб'яднаная дарога стала называцца Лібава-Роменскай. Праўленне яе размясцілася ў Мінску.

1907 год прынёс мястэчку Маладзечна новую гістарычную падзею: на сродкі французскай пазыкі была пабудавана і ўведзена ў эксплуатацыю яшчэ адна важная стратэгічная магістраль Балагое-Сядлец, якая ўвабрала ў сябе ўчастак Полацк-Ліда і перасекла Лібава-Роменскую дарогу на станцыі Маладзечна, якая з гэтага часу становіцца вузлавой і мае чатыры цягавыя плячы: Маладзечна-Мінск, Маладзечна-Ліда, Маладзечна-Полацк і Маладзечна-Вільнюс.

## Напачатку

На фоне вось такога чыгуначнага вузла і прыгаданых гістарычных падзей пачало сваю гісторыю паравознае дэпо. У 1903 годзе пачалося яго будаўніцтва, а да 1907 года паравознае дэпо Маладзечна ўжо лічылася асноўным. Яно мела паваротны круг і рамонтныя майстэрні. Было ўзведзена па тыпу заходнееўрапейскіх — веернага тыпу на 32 рамонтныя стойлы. Стаў выконвацца прамывачны рамонт паравозаў. Меўся і свой паравозны парк. Па тым часе ў дэпо працавала не больш за 100 чалавек. У іх ліку было 40 машыністаў і памочнікаў.

## Музей

Пералічаныя падзеі, факты, тыпы паравозаў таго часу прадстаўлены ў першым раздзеле музея, які азначаны гадамі 1903-1941. Кожны яго раздзел раскрывае гісторыю развіцця тэхнікі, яе ўдасканаленне, а таксама расказвае пра месца чалавека ў гэтым гістарычным працэсе. Тут змешчаны фотакартка, службовае пасведчанне чалавека, які працаваў у дэпо з 1919 года. Гэта Іваноўскі Пётр Яфімавіч. Нарадзіўся ў вёсцы Чаркасы Ашмянскага павета Віленскай губерні ў 1895 годзе. Меў 2 класы царкоўна-прыходскай школы. Лібава-Роменская чыгунка знаходзілася на адлегласці 20 кіламетраў ад яго вёскі, але паравозы, якія цягнулі за сабой пасажырскія і грузавыя саставы, яму даводзілася бачыць. І запала ў душу мара працаваць на паравозе. З ёй, сваёй марай, прайшоў ён пешшу 50 кіламетраў з Крэва ў Маладзечна і папрасіўся прыняць яго на работу ў паравознае дэпо. Прынялі ў якасці качагара паравоза. Таленавіты самавучка добра спраўляўся са сваімі абавязкамі. Цяжка перажыў ён гады, калі чыгунка разам з бацькаўшчынай была ў складзе Польшчы. Вымушаны быў не толькі звольніцца з работы, але і пераехаць у Вільню, бо не пагадзіўся стаць каталіком і прыняць польскае падданства. У 1939 годзе, пасля вызвалення Заходняй Беларусі, вярнуўся ў паравознае дэпо Маладзечна, а праз год ужо працаваў машыністам паравоза. Любоў да прафесіі машыніста прывіваў сваім сынам Аляксандру і Пётру, часта прыводзіў іх на паравоз, браў нават у паездку, хоць гэтым і парушаў інструкцыі. Пётр закончыў Лідскую школу паравозных машыністаў, Аляксандр – Гродзенскую.

Разам з жыхарамі горада працаўнікі дэпо мужна змагаліся з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны, аб чым расказвае асобны раздзел экспазіцыі музея. Напачатку вайны шмат хто з "паравознікаў" ваяваў з захопнікамі. І ўсё ж цэнтральнае месца адведзена групе Данілы Герновіча, які ўладкаваўся ў дэпо ў якасці памочніка машыніста, што давала яму магчымасць свабодна хадзіць па тэрыторыі прадпрыемства і такім чынам мець сувязь з рабочымі і збіраць звесткі для партызан. З 1943 года Даніла Герновіч быў разведчыкам і дыверсантам партызанскай брыгады імя Чкалава Баранавіцкага злучэння. У яго групу ўваходзілі рабочыя паравознага дэпо і станцыі.

За 1943-1944 гады група пусціла пад адхон не адзін варожы састаў, спаліла склад з гаручым палівам і змазачнымі матэрыяламі, узрывала цыстэрны з бензінам.

## Гады аднаўлення

У гэтым раздзеле экспазіцыя музея расказвае аб тым, як пасля вызвалення аднаўлялася разбуранае паравознае дэпо. Першымі сюды прыйшлі рабочыя аднаўленчага цягніка, а таксама паравознай калоны, якая ў гады вайны працавала ў раёне лініі фронту. Усяго каля 200 чалавек расчышчалі чыгуначны вузел. А па спісу за лістапад 1944 года ў дэпо працавалі 447 чалавек. Начальнікам дэпо быў Аляксандр Піліпавіч Кузьмін. З 1944 да 1945 года паравознае дэпо Маладзечна было ў складзе Беластоцкай чыгункі. У Маладзечне знаходзілася 4-е паравознае аддзяленне.

У 1960-я гады прыходзяць дызельныя цеплавозы, якія выкарыстоўваюцца на манеўровай рабоце. Паступова больш удасканаленая, узмоцненая і сучасная тэхніка выцясняе паравозы. Прыходзяць магістральныя грузавыя цеплавозы. З 1972 года дэпо называецца лакаматыўным. У пасляваенныя гады кадры паравознай гаспадаркі рыхтавалі Лідская школа паравозных машыністаў, затым Гродзенская школа. Падрыхтоўку машыністаў і памочнікаў машыністаў цеплавозаў рыхтавалі школы ў Гомелі, Оршы, вучылішчы чыгуначнага транспарту ў Брэсце, Мінску, Баранавічах і тэхнікум у Вільні.

Стэнды музея расказваюць аб тым, як за 100 год існавання дэпо перайшло ад маламагутнага паравоза да цеплавоза і электравоза. Як людзі сваімі творчымі adносінамі да працы ўкаранялі новыя тэхналогіі, уласнымі рукамі стваралі і мадэрнізавалі тэхніку. Чаго варта, напрыклад, арганізацыя колавага цэха? Ён быў створаны ў 70-х гадах на голым месцы. Трэба было знайсці і размясціць неабходнае абсталяванне, тэхналагічную дакументацыю і вырабіць прыстасаванні і аснастку для поўнага агляду колавых пар цеплавозаў. Пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера Канстанціна Цюхая рацыяналізатары Іван Вашкевіч, Васіль Аўдзей, Вацлаў Асіповіч, Уладзімір Зянько змаглі наладзіць работу так, што ў 1975 годзе колавы цэх (самы вялікі цэх дэпо) стаў працаваць. Цяпер у ім ідзе рамонт колавых пар цеплавозаў усёй Беларускай чыгункі, а пералічаныя рацыяналізатары і начальнік дэпо Васіль Герашчанка сталі лаўрэатамі прэміі К.Заслонава.

У ліку рацыяналізатараў, якія ўнеслі важкі ўклад у вытворчасць дэпо, былі і Зыгмунд Літвінскі, Віктар Рогаў, Мікалай Арлоў, Іван Новікаў і іншыя.

## Дынастыі

Ніводнае прадпрыемства горада не можа ганарыцца такой колькасцю сямейных дынастый, як лакаматыўнае дэпо. Іх некалькі дзесяткаў. Таму экспазіцыя музея расказвае пра іх асобным раздзелам. Вось бацька і сын Петруновы. Мікалай Іванавіч – зменны брыгадзір на тэхнічным аглядзе цеплавозаў. Яго сын Аляксей – таксама зменны брыгадзір.

Другі прыклад — сям'я Качалавых. Дзед Мікалай Качалаў нарадзіўся ў другой палове XIX стагоддзя. Працоўны шлях пачаў на чыгунцы на поўначы Расіі ў Кандалакшы. Усё жыццё працаваў там стрэлачнікам. Меў трох сыноў. Анатоль і Уладзімір працавалі ў дэпо Кандалакшы. Абодва не вярнуліся з вайны. Трэцяму сыну, Георгію, было наканавана звязаць свой лёс з паравозным дэпо Маладзечна. Праўда, працаваць пачаў, як і бацька, у Кандалакшы. Працаваў слесарам у дэпо. На фронт пайшоў добраахвотнікам. Служыў механікам у авіяцыйным палку асобага прызначэння. Нейкі час эскадрылля, у якой служыў Георгій Качалаў, знаходзілася на маладзечанскай зямлі ў Хажове. Там сустрэў Ніну Чаеўскую, якая ў хуткім часе стала яго жонкай. А з 1945 года Георгій Качалаў – механік паравознага дэпо Маладзечна. Ды не проста механік, а чалавек, што называецца, з "залатымі" рукамі. Унёс мноства рацыяналізатарскіх прапаноў, пра яго ведалі на прадпрыемствах горада, дзе ён таксама аказваў дапамогу. А ў станаўленні колавага цэха Міхаіл Мікалаевіч зрабіў важкі ўклад.

Яго сын (унук Мікалая Качалава) Міхаіл Георгіевіч, як толькі аддаў належнае армейскай службе, прыйшоў слесарам у паравознае дэпо. Закончыў Гомельскі чыгуначны тэхнікум, прайшоў падрыхтоўку на права вадзіць цеплавозы і працаваў машыністам на цеплавозе. Другі сын, Уладзімір Георгіевіч, як і яго брат, закончыў чыгуначны тэхнікум і працаваў машыністам у лакаматыўным дэпо. Па камсамольскай пуцёўцы паехаў на будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі. Сын Міхаіла Качалава (праўнук Мікалая Качалава), Андрэй, 1976 года нараджэння, працуе прасаўшчыкам у колавым цэху дэпо.

Дынастыя Качалавых ідзе і па жаночай лініі. Бацька Ніны Чаеўскай, Міхаіл Чаеўскі, яшчэ да рэвалюцыі 1917 года працаваў у паравозным дэпо Маладзечна.

## І зноў пра паравоз

Цяперашні народ такі, што тэхнічны прагрэс з цікавасцю вітае і сам хоча жыць "на сучасным узроўні". Супраць цяжка што-небудзь сказаць. І я за тое. Аднак, калі гаворка ідзе пра справы чыгуначныя, належнае трэба аддаць паравозу. На беларускай чыгунцы і праз станцыю Маладзечна паравозы хадзілі больш за сто гадоў, у той час калі цеплавозы эксплуатуюцца толькі больш за 30. Значыць, да тэхнічнага прагрэсу доўга і цяжка, але ўсё ж вялі грамадскасць паравозы.

На пачатку XX стагоддзя яны везлі ўкраінскі хлеб у парты Прыбалтыкі, у гады першай сусветнай падвозілі зброю і правіянт да лініі фронту, у часы сталінскіх пяцігодак — будаўнічыя матэрыялы да вялікіх будоўляў. У цяжкія гады Вялікай Айчыннай паравозы здзяйснялі подзвігі – мужна ішлі пад адхон і цягнулі за сабой варожыя эшалоны. Цяжкасці вайны і аднаўленчага пасляваеннага часу цярпліва вынеслі на сваіх плячах. У 1960-я гады састарэлыя і стомленыя паравозы пачалі перадаваць сваю працоўную эстафету прадстаўнікам новага пакалення – цеплавозам.

Чытач, пэўна, заўважыў, што пра паравоз я гавару як пра чалавека. А што? Хіба гэта не так?! Паравоз, як і чалавек, меў век у 100 гадоў, рухаў грамадства наперад, ваяваў з ворагам, вазіў хлеб, цэглу, лес, фарміраваў цягнікі на пуцях станцыі. У экспазіцыі музея, у арганізацыі і стварэнні якога я прыняла ўдзел, ёсць фотакартка: каля ўзарванага партызанамі чыгуначнага палатна пад адхонам ляжыць на баку паравоз і разам з ім некалькі вагонаў нямецкага саставу. Я гляджу на гэты здымак з болем у сэрцы. Усё жыццё для мяне паравоз – нешта жывое. І вось ён нежывы: колы не круцяцца больш... Колькі тысяч кіламетраў ён прайшоў за сваё жыццё? А можа, я расла і падрастала, гледзячы менавіта на яго, бо наш дом стаяў ля самай чыгункі?!..

...Паравозы, як і людзі, маюць свой лёс. Большасць з іх састарэла і парэзана на металалом, былі і такія, што загінулі ў сутыкненнях. А вось у аднаго з іх лёс зусім іншы – ён устаноўлены каля дэпо, як даніна павагі ўсім паравозам і людзям. Стаіць моўчкі. Стаіць і назірае за тым, як каля яго ходзяць новыя, прыгожыя сучасныя і дужыя цеплавозы. Стаіць і сам сабе кажа: "У добры шлях вам, прадстаўнікі новага часу! А я... Я выканаў свой абавязак перад людзьмі і Айчынай!!!".

**Любоў КАРПОВІЧ.**

 



■ ПАРТРЭТ

# Паехаць з дому і пакарыць Еўропу

Рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву (РВАР) збірае пад сваім дахам самых таленавітых юных спартсменаў у многіх відах спорту, у тым ліку камандных. На яго базе звычайна фарміруюцца юнацкія зборныя краіны. Пры мэтанакіраванай прафесійнай рабоце гэтыя зборныя могуць дабівацца гучных поспехаў у міжнародных стартах, тады як узровень айчынных дарослых клубаў і зборных вельмі нізкі, бо ён, у першую чаргу, залежыць ад эканамічнага стану краіны.

Сёлета, што называецца, "выстралілі" дзяўчаты-баскетбалісткі, сярод якіх далёка не апошнюю ролю адыгралі нашы зямлячкі са Смаргоні Юля Дурэйка і Лена Рынкевіч. Першая з іх нарадзілася 8 верасня 1986 года, таму магла выступаць толькі за юніёрскую зборную, а вось яе сяброўка з'явілася на свет ужо ў 1987 годзе (21 сакавіка), што дазволіла ёй гуляць за зборную кадэтак.



Баскетбалісткі Юля Дурэйка (злева) і Лена Рынкевіч (справа) нарадзіліся і выраслі ў Смаргоні. Цяпер яны вучацца ў рэспубліканскім вучылішчы алімпійскага рэзерву, уваходзяць у склад юнацкай зборнай краіны.

Фота Святланы ЦІШКО.

Кадэткі мінулым летам выйгралі кваліфікацыйны турнір на Украіне, у сёлетнім красавіку пераадолелі паўфінальны бар'ер у Венгрыі і напрыканцы ліпеня выдатна згулялі ў Турцыі на фінальным турніры: ім дасталіся сярэбраныя ўзнагароды.

Пакуль Лена непасрэдна рыхтавалася да турэцкіх выпрабаванняў, Юля была запрошана на трэніровачны збор нацыянальнай каманды з выездам на таварыскі турнір у Польшчу.

Сустрэліся дзяўчаты ў Францыі, дзе ў першых чыслах жніўня праходзілі комплексныя спаборніцтвы еўрапейскага алімпійскага фестывалю моладзі: выніковая бронзавая пазіцыя беларускай каманды была дасягнута на фоне стомленасці і папярэднічала больш адказнаму старту.

Ужо праз тыдзень на кваліфікацыйным турніры ў Балгарыі юніёркі, зборная якіх была ўтворана на базе кадэцкай, заваявалі права ўдзелу ў паўфінальных спаборніцтвах, якія запланаваныя на будучы красавік.

Такой развязкай скончылася беспрэцэдэнтнае па гульнявым напружанні лета-2003, напрыканцы якога ў дзяўчат засталося толькі дзесяць дзён на вакацыі ў дамашняй атмасферы, ды і то ў гэты час давялося з'ездзіць на ўзнагароджанне ў Міністэрства спорту і турызму.

Дарэчы, запомнім імёны і прозвішчы не толькі нашых зямлячак, але і іх партнёрак, напрыклад, Анастасіі Верамеенкі, Вікторыі Гаспер, Вікторыі Макаранка, Алены Новікавай, Вікторыі Панцюх, Святланы Трукшанінай. Яны – будучыня беларускага жаночага баскетбола, яны могуць стаць нашымі сапраўднымі надзеямі на дарослых Алімпіядах. Не растраціць такое багацце, не згубіць такі патэнцыял – надзённая справа кіраўнікоў беларускага спорту.

### Як усё пачыналася

Дзяўчаты сталі сур'ёзна займацца баскетболам у 1997 годзе. Тады яны вучыліся ў пятым класе сярэдняй школы і запісаліся ў мясцовую спецыялізаваную дзіцяча-юнацкую школу алімпійскага рэзерву. Праўда, Сяргей Анатольевіч Дурэйка, які працуе ў СДЮШАР трэнерам, браў дачку з сабою на занняткі, яшчэ калі тая хадзіла ў дзіцячы сад. Юля расказала, што баскетбол адразу спадабаўся, любіла гуляць, кідаць мячык. Займаўся гэтым відам спорту таксама старэйшы брат, Аляксандр, які і цяпер крыху гуляе для сябе. Дарэчы, маці, Марыя Міхайлаўна, выкладае фізкультуру ў СШ№1.

У сям'і Лены Рынкевіч, дзе адны толькі жанчыны, наадварот: ні маці, Вера Мікалаеўна, якая працуе паварыхай, ні старэйшая сястра, Наташа, спортам асабліва не цікавіліся.

У СДЮШАР трэнерам дзяўчат была Жанна Грэхава (Юля напачатку нейкі час займалася ў Вольгі Сасоўскі). Іх каманда 1986-1987 г.н. добра выступала на рэспубліканскім узроўні, напрыклад, у спаборніцтвах дзіцячай баскетбольнай лігі. Помніцца, Юля тады яшчэ лепшым снайперам турніру станавілася.

Безумоўна, за больш чым сорак гадоў існавання баскетбольнага аддзялення ў школе яны ўжо дабіліся самых значных поспехаў сярод усіх выхаванцаў. З такой думкай згодны дырэктар СДЮШАР, а ў апошні год па сумяшчальніцтву і кіраўнік дэлегацыі пры выездах зборных дзяўчат Валерый Юрчанка. Праўда, ён заўважыў, што цяпер і іншыя выхаванцы прыкметныя на рэспубліканскім узроўні, а Яўген Грэхаў, які гуляе за РТІ-РВАР, у складзе маладзёжнай зборнай (1984 г.н. і меншыя), зусім нядаўна таксама пераадолеў еўрапейскі кваліфікацыйны этап.

Працяг будзе.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Табло

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**27 верасня. Шахцёр (Салігорск, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 1:0.**

Узнік канфлікт трэнера дубля Сяргея Карыцькі з кіраўніцтвам "Маладзечна-2000". У выніку некаторыя яго выхаванцы з ДЮСШ не прынялі ўдзел у матчы, з-за чаго каманда ледзь назбірала стартавы склад. Кадравыя праблемы ўскладняюцца таксама траўмамі Мятліцкага і Пятроўскага.

**Юнацкая (U-19 – да 19 гадоў) зборная краіны заняла першае месца ў групавым адборачным турніры да чэмпіянату Еўропы, які праходзіў у Мінску.**

Беларусы згулялі ўнічыю з Грэцыяй 0:0, Партугаліяй 1:1 і перамаглі Уэльс 3:0, такім чынам, атрымалі права ўдзельнічаць у яшчэ адным групавым адборачным турніры, пераможца якога нарэшце трапіць у фінальную васьмёрку. Выхаванец смаргонскай ДЮСШ нападаючы Леанід Ковель (выступае за РВАР) ва ўсіх матчах выходзіў на замену ў другім тайме. Адзначым, што ён на год маладзейшы за партнёраў.

**Маладзечанскі "Пуцеец" выступіў у Ляхавічах на рэспубліканскім турніры, які арганізавала Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі.**

У групавым турніры сярод пяці каманд занялі першае месца з 10 ачкамі і розніцай мячоў 14-0. Вылучаліся ў складзе варатар Аляксандр Мароз, палявыя Віталь Абановіч, Віталь Навіцкі, Андрэй Южык.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**Шосты па ліку чэмпіянат краіны па экідэну (пераадольванне марафонскай дыстанцыі эстафетай з васьмі ўдзельнікаў) прайшоў у Капылі. Сярод зборных абласцей Міншчына стала трэцяй, у яе складзе выступалі маладзечанкі Галіна Кавалёва і Алена Куцкевіч.**

Таксама праводзіліся эстафеты сярод моладзі, якія збіралі да 30 калектываў. Маладзечанцы з шасці стартаў выйгралі тры. Гэта вызначыліся хлопцы 1988-1989 г.н. (3 па 1200 м – Павел Крушынскі, Аляксандр Салей, Павел Вашынка), дзяўчаты 1988-1989 г.н. (3 па 1200 м – Алена Лісоўская, Марыя Глебец, Алена Семкіў), дзяўчаты 1990-1991 г.н. (3 па 800 м – Крысціна Круцько, Анастасія Андрыянава, Веранiка Сянько).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КАРАТЭ

**МАЛАДЗЕЧНА. Спартсмены клуба "Сакура" сталі прызёрамі на рэспубліканскім турніры па каратэ сярод юнакоў і дзяўчат 16-17 гадоў.**

Клуб прадстаўлялі на спаборніцтвах Дзмітрый Стрэж і Яўген Шатыронак. Яны занялі адпаведна 2-е і 3-е месцы ў кумітэ (паядынках), узнагароджаны дыпломамі і медалямі. Дзмітрый выступаў у вагавай катэгорыі да 55 кг, Яўген – звыш 75 кг. Хлопцы займаюцца каратэ ўжо 5 гадоў, некалькі разоў былі прызёрамі рэспубліканскіх турніраў і чэмпіянату Еўропы. Падрыхтавалі спартсменаў трэнеры Сяргей і Вячаслаў Хадасевічы.

Святлана ЦІШКО.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Канцоўка прыносіць ачкі

**Камунальнік (Слонім) – Смаргонь 0:1. 27 верасня. 2300 гледачоў. Суддзя Чэрнік. Гол: Кухлей (92+).**

Матч быў роўным, вострых момантаў было па адным з кожнага боку: Валавік не рэалізаваў выхад сам-насам з варатаром, а Шляхавой выручыў каманду, парыраваўшы небяспечны ўдар. Развязка наступіла ў дадатковы час. Дзігілевіч распачаў атаку ў сярэдзіне поля, аддаў пас Валавіку – той змясціўся на фланг і "выразаў" перадачу ў цэнтр на Кухлея – новы лідэр атак "Смаргоні" перайграў галкіпера і пракінуў мяч у вароты.

На жаль, у першым тайме быў траўміраваны Карасёў. Магчыма, ён не зможа згуляць у нядзелю ў важнейшым матчы са ЗЛіНам, як і Валавік, які атрымаў чацвёртае папярэджанне.

**27.09. Ведрыч-97 – Лакаматыў 1:2, ЗЛіН – Тарпеда-Кадзіна 1:1, Нёман – Хімік 1:2, Граніт – Дняпр-ДЮСШ-1 2:1.**

1. Лакаматыў (В) ........ 57
2. МТЗ-РІПА ........ 54
3. Граніт ........ 46
4. Смаргонь ........ 44
5. ЗЛіН ........ 44
6. Ведрыч-97 ........ 42
7. Хімік ........ 40
8. Ліда ........ 38

Бамбардзіры: Кузьмянок (МТЗ-РІПА) – 20, Савельеў (ЗЛіН) – 18.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## З мінімальным лікам

**Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000 1:0. 28 верасня. 3500 гледачоў. Суддзя Архіпаў. Гол: Белавусаў (2).**

Склад: Жылкін – Дрозд, Ганчароў, Ляпета (Якімчук,65), Крывіцкі – Лявончык, Вышынскі (Лабанаў,55), Альховік (Хамутоўскі,79), Дараховіч, Урублеўскі – Кадол.

Выдалены Ганчароў пасля другога папярэджвання на 80 хвіліне.

Гаспадары забілі ў дэбюце: пасля падачы вуглавога самым увішным у нашай штрафной аказаўся абаронца Белавусаў. На працягу матча "Шахцёр" валодаў адчувальнай перавагай, але праявілася яго хранічная ў гэтым сезоне хвароба нерэалізацыі галявых момантаў.

Зазначым, што ў складзе выйшлі Жылкін і Ляпета. Першы адгуляў на варотах зусім нядрэнна, парадуемся і за дэбют другога – 17-гадовага мясцовага выхаванца.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі Руслан Лукін катэгарычна выказаўся наконт суддзейства, бо арбітр не стаў прызначаць пенальці ў вароты салігорцаў, калі іх абаронца згуляў рукой ля сваіх варот. Гэтыя праблемы паўтараюцца з матча ў матч, таму наш клуб мае намер звярнуцца ў АБФФ, каб больш уважліва інспекціравалася наступныя сустрэчы.

**28.09. Славія – Дняпр-Трансмаш 2:1, Зорка-ВА-БДУ – Гомель 0:1, Лакаматыў – Дарыда 3:0.**

1. Гомель ........ 55
2. Дынама (М) ........ 48
3. Тарпеда-СКА ........ 48
4. Шахцёр ........ 46
5. БАТЭ ........ 42
6. Тарпеда (Ж) ........ 37
7. Нафтан ........ 28
8. Нёман ........ 27
9. Днепр-Трансмаш ........ 26
10. Белшына ........ 21
11. Дынама (Б) (-1) ........ 19
12. Славія ........ 19
13. Дарыда ........ 18
14. Зорка-ВА-БДУ ........ 18
15. Лакаматыў (М) (-1) ........ 17
16. Маладзечна-2000 ........ 14

Бамбардзіры: Блізнюк (Гомель), Бяганскі (БАТЭ), Мархель ("Тарпеда" Ж) – па 12.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ АНОНС

**3 кастрычніка. 14-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Нафтан (Наваполацк, дубль).**
**+0=0-3 2-8. У першым крузе 0:3 на выездзе.**
**4 кастрычніка. 16-00. Маладзечна-2000 – Нафтан (Наваполацк).**
**+6=2-3 17-18. У першым крузе 0:2 на выездзе.**
**5 кастрычніка. 16-00. Смаргонь – ЗЛіН (Гомель).**
**+0=1-2 1-5. У першым крузе 1:1 (Грабаздзін) на выездзе.**
**8 кастрычніка. 1/8 Кубка. Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000.**
**У Кубку: +2=0-0 2-0. У чэмпіянатах: +7=4-11 18-25.**

■ КОНКУРС

## Астравец – Маладзечна: чыя возьме?

**Матчы, выстаўленыя на чацвёрты тур, завяршыліся наступным чынам. Шахцёр – Маладзечна-2000 1:0. Дынама (М) – Тарпеда-СКА 1:0. Камунальнік – Смаргонь 0:1. Інтэр – Дынама (К) 2:1. Лакаматыў – Арсенал 0:0.**

На чацвёрты тур атрымана 15 лістоў. Як заўсёды, ніводны з іх не ўтрымлівае хаця б двух правільных лікаў. Адзін лік дакладна спрагназаваны ў чатырох адказах. У двух з іх, дасланых Мар'янам Вянгроўскім з Астраўца і Ягорам Бегуном з Маладзечна, ёсць па чатыры правільныя зыходы. Пераможцу чацвёртага тура гэтыя прэтэндэнты высветляць паміж сабой у наступным туры.

Спіс матчаў, выстаўленых на пяты тур, будзе змешчаны праз тыдзень.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

 

## ВІНШАВАНКІ

Дарагі
**Роліч Мар'ян Юльянавіч**!
Віншуем Вас з юбілеем!



У Вас сегодня юбилей,
И мы от всей души желаем
Прожить Вам много-много лет,
Печали, горести не зная.
Пусть ангел Вашу жизнь хранит,
Ведь в жизни всякое бывает.
Пусть горе в двери не стучит,
А радость Вас не забывает.
*Сын, нявестка, унук Максим.*

Турклуб "Пілігрым" віншуе **ўсіх настаўнікаў** з надыходзячым прафесійным святам! Жадае цярпення, здароўя і ўсяго самага найлепшага.

Віншуем **Шарафановіч Веру** з Чыжэвіч з 55-годдзем. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх год жыцця. *Фаіна, Таня з Маладзечна.*

Віншуем **Сяляўку Наташу** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання. *Фаіна і Таня Каспяровічы з Маладзечна.*

Віншую **любую матулю** з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шмат грошай, сямейнага дабрабыту. *Кацярына.*

**Новік Тамару Іванаўну** віншуем з 55-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, верных сяброў. *Саслужыўцы.*

**Лобана Дзмітрыя Мікалаевіча** віншуем з 40-годдзем! Жадаем здароўя, поспехаў у працы. Не забывай сяброў, хутчэй вяртайся. *Сябры Кролікі.*

**Нашчынец Тамара Лявонаўна**! Віншуем Вас з юбілеем. Жадаем здароўя, доўгага жыцця, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Ірына і Мікалай Бондар.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**3-5 кастрычніка. "Агент Джоні Інгліш"**, ЗША, камедыйны баявік – у 17.00 і 21.00. 4 і 5 кастрычніка – у 15.00, 17.00 і 21.00.
**"Блакітная хваля"**, ЗША, меладрама – у 19.00.
**6-12 кастрычніка. "Ядро Зямлі"**, ЗША, фільм-катастрофа; 2 серыі – у 19.00.
**"Старая загартоўка"**, камедыя – 17.00 і 21.20.

### Для дзяцей

**4 і 5 кастрычніка. "Мама больш не гультайка"**, мультпраграма – у 13.00.

## ЗНАЁМСТВЫ

Адзінокі малады чалавек, 32 гады, шукае сяброўку жыцця – дзяўчыну з добрым сэрцам. Пішы, любая. Маладзечна-6, п/п МС 0666683.

■ ПАРАДЫ

# Каб перамог смех

**У сярэднія вякі гаварылі, што прыезд у горад вандроўнага цырка важней за караван з лякарствамі. Ужо тады разумелі, што смех і весялосць лечаць.**

Як гаварыў фізіёлаг Ю.Урываеў, цэнтры смеха размешчаныя ў левай частцы лобных доляў галаўнога мозга і непасрэдна звязаныя з цэнтрамі мовы. Дамінаванне левага паўшар'я мозга прадвызначае арыентацыю на гумар.

Некаторыя лічаць, што канчатковы эфект смеху роўны ёгаўскай дыхальнай гімнастыцы. Аптымізацыя дыхання ў працэсе смеху рэзка паляпшае кровазабеспячэнне органаў і тканак, нармалізуе артэрыяльны ціск. Аўтаматычна паляпшаецца і самаадчуванне чалавека, яго настрой. Смех павінны нараджацца ў глыбіні душы, ён не прызнае аніякага фальшу. Смех – гэта светапогляд. Хвароба – таксама. Але ў аднаго чалавека не можа быць двух светапоглядаў. Адзін павінны ўзяць верх. Пастарайцеся, каб перамог смех...

Толькі няшчасці прыходзяць самі сабой. А вось здольнасць радавацца трэба ў сабе развіваць. Вельмі важна адчуць абсурднасць няшчасця ці няўдачы, якая напаткала вас.

Не ўпускайце любой магчымасці пасмяяцца! Старайцеся як мага больш усміхацца, і, як раіць нямецкая прымаўка, "бярыце прыклад з сонечных гадзіннікаў – вядзіце падлік толькі радасных дзён"!..

**Алена УРБАНОВІЧ.**



Добрага вам настрою!
Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя! На гэты раз свае правільныя адказы на нашу незвычайную крыжаванку даслалі толькі два чытачы, маладзечанцы **Дзмітрый Пакладок і Арцём Паўлавіч Якубовіч**. Іх, як самых заўзятых прыхільнікаў газеты, чакаюць білеты ў кіно. А зараз, правільныя адказы на крыжаванку. 1. Верашчака. 2. Дрэтунь. 3. Кенгуру. 4. Георгіеўская. 5. Сцяпан. 6. Сонейкі. А імя нашага новага "супрацоўніка" Рэгіян. Увага! Па выніках верасня лідэрам нашага конкурсу стаў **Дзмітрый Пакладок**. Віншуем і чакаем яго ў рэдакцыі.

А цяпер, умовы наступнага задання, якое для вас падрыхтаваў Мікола Ліпскі. Правілы гульні даволі простыя. Па-першае, вы павінны адказаць на дзесяць пытанняў, да кожнага з якіх даюцца тры варыянты адказаў, адзін з іх правільны. Па-другое, з кожнага слова-адказу трэба ўзяць першую літару і скласці з іх загадкавае слова. Падказкі: слова абазначае назву беларускага горада, пачынаецца і заканчваецца зычнымі літарамі.

Пытанні: 1. Якая свойская птушка з'яўлялася сімвалам агню ў старажытных славян? (Гусак. Індык. Певень.) 2. Каля якога горада 8 верасня 1514 года беларуска-літоўскае войска нанесла паражэнне маскоўскаму войску? (Слонім. Орша. Барысаў.) 3. Якая з гэтых даўнейшых мер даўжыні была найменшай? (Вяршок. Цаля. Аршын.) 4. Як называўся наёмны работнік, які кіраваў гаспадаркай у панскім маёнтку? (Аканом. Батрак. Сотнік.) 5. Хто з гэтых кампазітараў стварыў славуты паланез "Развітанне з Радзімай"? (Агінскі. Ельскі. Манюшка.) 6. Які "тытул" носіць возера Чырвонае, што на Палессі? ( Барон. Граф. Князь.) 7. У якім з гэтых гарадоў стаіць помнік вялікаму асветніку Сымону Буднаму? (Полацк. Нясвіж. Слуцк.) 8. Удзельнікамі якога ансамбля былі вядомыя артысты Я.Паплаўская і А.Ціхановіч? ("Песняры". "Сябры". "Верасы".) 9. Які з гэтых часопісаў раней выходзіў пад назвай "Работніца і сялянка"? ("Алеся". "Ксюша". "Гаспадыня".) 10. Якая жывёла адлюстроўвалася на беларускіх разліковых білетах (1992 год) наміналам 25 рублёў? ( Дзік. Лось. Зубр.)

Чакаем вашых адказаў да наступнага аўторка ( 7 кастрычніка ) уключна. Будуць разыграны 5 білетаў.

**Падрыхтавалі Аксана КУЛЕЎНІЧ і Мікола ЛІПСКІ.**

■ СПОРТ

## На турзлёт

**МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдняй школе №5 стала традыцыяй завяршаць навучальны год турзлётам.**

Летась яго правялі непадалёк ад Залесся. Сёлета выбралі маляўнічае месца на беразе Віліі непадалёк ад лагераў адпачынку. Удзельнічалі вучні 5–8-х і 10-х класаў. Каб падтрымаць дух спаборніцтваў, запрасілі таксама школьнікаў з Ліды. Вызначалі наймацнейшую каманду ў валейболе, міні-футболе, а ў паласе перашкодаў удзел прынялі нават настаўнікі.

Добрыя ўспаміны аб злёце засталіся ў вучняў дзякуючы настаўніку фізкультуры СШ №5 Уладзіміру Страху, у якога ўзнікла ідэя праводзіць турзлёты. Ён з'ўляецца і галоўным суддзёй спаборніцтваў. А Яўген Макарэвіч, дырэктар школы, якой пашанцавала на такога няўрымслівага настаўніка фізкультуры, падтрымлівае яго прапановы і забяспечвае ўдзельнікаў транспартам.

**Галіна ТУМАШ.**



**Уладзімір Арлоў на сустрэчы з выхаванцамі школы-інтэрната.**
Фота Святланы ЦІШКО.

## Запрасілі пісьменніка ў госці

**МАЛАДЗЕЧНА. У школе-інтэрнаце для дзяцей, хворых на скаліёз, 1 кастрычніка адбылася сустрэча з Уладзімірам Арловым.**

Дзве дзяўчынкі-канферанс'е павіталі пісьменніка ад імя выхаванцаў школы і расказалі прысутным аб найбольш вядомых творах пісьменніка. Затым узяў слова ён сам: падзяліўся ўспамінамі, пра свае дзіцячыя мары стаць вадалазам ці патолагаанатамам, пра навучанне ў БДУ. Паведаміў, што ўжо з'явіліся ў кнігарнях дзве новыя кнігі – "Ордэн Белай Мышы" і "Адкусі галаву вароне". А пасля папрасіў задаваць пытанні. Ці не самым шчырым было наступнае: "Ці былі ў Вас праблемы з пазваночнікам?". Пісьменнік прызнаўся, што меў парушэнне паставы. На завяршэнне сустрэчы Уладзімір Арлоў раздаваў усім ахвотным аўтографы.

**Святлана ЦІШКО.**

## Гаспадарлівыя «надзвычайнікі»

**ВІЛЕЙКА. Светленькі дамок з празрыстымі ад чысціні шыбамі стаіць у вёсцы Людвінова насупраць школы. Каля ганку — кветнік, пад акном — альпійская горка.**

Гэта зусім не хатка казачнай бабулі, якую хацеў з'есці шэры воўк, а пажарны аварыйна-выратавальны пост (з двара відаць гараж) райаддзела па надзвычайных сітуацыях. І гаспадараць у ім мужчыны.

Дзяжураць суткі праз двое. Па тэлефоне ці рацыі ім паведамляюць аб пажарах, аварыях, іншых здарэннях, і яны выязджаюць. Курыруюць «надзвычайнікі» з Людвінова ўвесь Касцяневіцкі і Жарскі сельсавет, а таксама вёскі калгаса «За мір» Альковіцкага сельсавета.

Клопатаў хапае, тым не менш аварыйна-выратавальны пост мае ўзорны выгляд: у гаражы няма нічога лішняга, у дзяжурцы чысценька, падлога, відаць, нядаўна пафарбаваная. І не скажаш, што тут раней была чорная ад цвілі столь, пад нагамі — гнілыя дошкі. А гэта значыць, што такім гаспадарлівым мужчынам можна даверыць не толькі частку Вілейскага раёна.

**Святлана ЦІШКО.**

## Увага!

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 верасня ў 17.45 на перакрыжаванні Вялікага Гасцінца і вул.Гарадоцкай адбылося дарожна-транспартнае здарэнне з удзелам аўтамашын «Аўдзі-100» і грузавой аўтамашыны «Івека-Фіят». Просім тых, хто бачыў аварыю, патэлефанаваць у ДАІ па 6-16-16, 5-44-44.**

**Уладзімір БАЛКОЎСКІ, начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.**

## Купон 40

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ СМАРГОНЦАЎ

## Ці ёсць жыццё пасля смерці?



**Яўген Андрыца, выратавальнік:**

— У каго яно было да смерці, у таго яно ёсць і пасля. Калі сур'ёзна, не ведаю. Але хацелася, каб было. Шмат кветак, птушак — усё для душы. І каб хапіла, чаго недаставала пры зямным жыцці. Напрыклад, апынуся на Канарах, калі не быў там.



**Валерый Бацько, начальнік упраўлення адукацыі райвыканкома:**

— Думаю, нешта ёсць. Нядаўна вычытаў, што праз 100 гадоў не будзе мужчын: знікне мужчынская храмасома. Але мяркую, праз 1000 усё вернецца на свае месцы. Толькі будуць адны настаўнікі, бо менавіта яны працуюць над душой чалавека.



**Марыя Грыдзіна, рабочая:**

— Магчыма, ёсць. Уяўляю, што без грошай, хваробаў, войнаў. Хочацца, каб пасля смерці было жыццё.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| **Мінск** | 4.10 | 5.10 | 6.10 | 7.10 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) |  | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +13 | +15 | +12 | +8 |
| ноччу | +6 | +11 | +14 | +7 |
| **атмасферны ціск**, мм | 733 | 730 | 724 | 735 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 4-6 | 1-3 | 4-6 | 2-5 |

| **Вільня** | 4.10 | 5.10 | 6.10 | 7.10 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) |  | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +14 | +14 | +10 | +7 |
| ноччу | +8 | +13 | +14 | +7 |
| **атмасферны ціск**, мм | 734 | 733 | 733 | 740 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 4-6 | 1-3 | 4-6 | 2-5 |


## Чытайце праз тыдзень:

● **Знаёмы і незнаёмы Валожын**
Многае змянілася ў Валожыне за паўвека. Пабудаваны сучасны гандлёвы цэнтр, пошта, рэстаран, рэканструяваны парк і возера ў цэнтры горада. Подых часу не мінуў гэта даўняе паселішча, якому наўрад ці хто дасць яго гады.


## Гараскоп 6 – 12 кастрычніка



**Авен (21.03–20.04)**

У гэтым перыядзе проста абавязана павысіцца ваша ўпэўненасць у сабе. Магчыма нечаканае змяненне месца жыхарства ці работы. Перыяд добры для зносін, удачны для перамоў з дзелавымі партнёрамі. Карысна праяўляць актыўнасць і ініцыятыву з вашага боку. Добра разбураць старое і пачынаць новае, у вас будзе вялікая прастора для выбару. Выхадныя лепш прысвяціць пасіўнаму адпачынку, у гэты дзень не варта прымаць сур'ёзных рашэнняў.



**Цялец (21.04–21.05)**

Удачны перыяд для абнаўлення свайго гардэроба. Асаблівых поспехаў на рабоце пакуль не прадбачыцца, затое паступова пачне павышацца творчы патэнцыял. Пажадана пазбягаць непатрэбных і малапрыемных сустрэч, бо да канца перыяду вы можаце адчуць упадак сіл. Не старайцеся ўсё перарабіць, аб'ктыўна разлічвайце сілы. Нядрэнна было б праверыць некаторых дзелавых партнёраў на надзейнасць. У выхадныя не пачынайце новых спраў.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Чым больш аптымістычным будзе ваш настрой, тым лягчэй вы дасягнеце жаданага поспеху і грамадскага прызнання. Аднак некаторыя важныя арганізацыйныя пытанні будуць вырашацца з цяжкасцямі, і то, калі вы прыкладзеце максімум намаганняў. Пажадана захаваць у сакрэце свае планы і пачынанні, каб увасобіць задуманае ў жыццё. Не выключана сутыкненне з бюракратычнай валакітай. Другую палову перыяду прысвяціце сабе.



**Рак (22.06–23.07)**

Перыяд можа аказацца ўдачным ва ўсіх сферах вашай дзейнасці. Пастарайцеся арыентавацца не толькі на сябе, улічвайце таксама і інтарэсы дзелавых партнёраў, і іншых зацікаўленых бакоў. У гэтай сітуацыі вы толькі выйграеце, калі пойдзеце на нязначныя ўступкі. Рэалізуюцца вашы задумы, яны прынясуць вам поспех і ўмацуюць аўтарытэт. У выхадныя пастарайцеся арганізаваць паход за горад ці хоць у трэнажорную залу.



**Леў (24.07–23.08)**

Вы вельмі многа патрабуеце ад сябе, будзьце больш паблажлівыя. Магчыма, гэты перыяд будзе дынамічным і паспяховым у ва многіх галінах, хаця незадавальненне сабой некалькі зніжае вашу радасць ад поспеху. Далёкая паездка будзе вельмі паспяховай. Спрыяльны час для дзелавых кантактаў і заключэння дагавораў. Можна разлічваць на разумную дапамогу і падтрымку калег. Праяўляйце настойлівасць пры адстойванні сваіх інтарэсаў.



**Дзева (24.08–23.09)**

У гэтым перыядзе цікавыя людзі могуць прынесці масу каштоўнай інфармацыі. Поспех чакае пры нетрадыцыйным падыходзе да вырашэння любых жыццёвых праблем. Старайцеся перапраўраць свае дзеянні і запоўненыя паперы. Вам неабходна праявіць цярпенне, інакш вашы дзелавыя партнёры могуць скарыстацца вашай эмацыянальнасцю і справакуюць канфліктную сітуацыю. Выпадковыя сустрэчы адкрыюць новыя перспектывы.



**Шалі (24.09–23.10)**

Вам трэба сачыць за тым, што і каму вы гаворыце. Не выключана, што ў супрацьлеглым выпадку вы можаце аказацца ахвярай падману. Кантралюйце свой эмацыянальны стан, каб не трапіць у вельмі далікатнае становішча. Будуць нечаканыя сустрэчы і важныя, калі не сказаць лёсавызначальныя, знаёмствы. Будуць падтрыманыя вашы творчыя праекты, але калі вам важны поспех – пастарайцеся не адцягваць увагу на іншае.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Можа з'явіцца столькі рознабаковых інтарэсаў, што дома вы станеце рэдкім госцем. Добры перыяд для творчых пачынанняў, фізічнай актыўнасці і адстойвання ўласных інтарэсаў. Адна з галоўных мэт гэтага перыяду – умацаванне свайго становішча ў дадзенай сферы дзейнасці. Пятніцу ці яшчэ які-небудзь дзень правядзіце ў адзіноце, пад лёгкую вячэру і спакойную музыку. А можаце, наадварот, наладзіць, напрыклад, вечарынку для калег.



**Стралец (23.11–21.12)**

У гэтым перыядзе вы можаце атрымаць заманлівую дзелавую прапанову. Магчымы знаёмствы з патрэбнымі людзьмі. На рабоце вам будзе забяспечаны поспех, якога вы зусім і не чакалі. Вырашыцца ваша даўняя, сур'ёзная, некалькі хваравітая праблема. Магчыма, з'явіцца шанс знайсці крыніцу дадатковага заробку. У зносінах з блізкімі людзьмі будзьце максімальна тактоўнымі. Спрыяльны час для звароту па ўрачэбную дапамогу ці кансультацыю.



**Казярог (22.12–20.01)**

Пажадана прысвяціць гэты перыяд вырашэнню новых задач. Пакіньце ў спакоі старыя праблемы і сканцэнтруйцеся на новых ідэях. Вам спатрэбіцца цярпенне, затое вы зможаце дабіцца значных поспехаў. Найбольш удачнымі будуць самастойныя дзеянні, але не варта ўзвальваць на сябе ўсе праблемы на свеце. Магчымы цікавыя і канструктыўныя прапановы з боку начальства. Пры вырашэнні праблем разлічвайце толькі на свае сілы.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Пазітыўны погляд на жыццё адчыніць перад вамі новыя магчымасці. Сур'ёзна аднясіцеся да спраў, якія звязаныя з вашай кар'ерай. Магчыма, прыйдзецца пагутарыць з начальствам, тут абмяркуеце і хвалюючыя вас пытанні. Абяцаюць быць паспяховымі арыгінальныя ідэі ў дзелавой сферы. Магчымы станоўчыя змяненні ў ходзе работы. Вас могуць пацягнуць ў далёкую дарогу, будзьце асцярожныя, бо могуць быць непрадбачаныя сітуацыі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Не варта траціць шмат часу на будаўніцтва паветраных замкаў. Занятак прыемны, але чым больш цудоўных пабудоваў, тым большае расчараванне ад жорсткай рэальнасці. Больш карысці ад клопату аб зямным. Пажадана не паказваць калегам сваёй нецярпімасці, інакш усе справы могуць пайсці наперакасяк. У другой палове перыяду вам могуць даручыць складаную і адказную работу, дарэчы, вы з ёй справіцеся.




**Рэгіянальная газета**

**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227 ад 19.08.2003 г. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 5 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 10000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. № 40 (441) 3.10.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 3022. Падпісана ў друк у 13.00 2.10.2003

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by





**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**